Адна зямля

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

9 мая 2014 года №19 (993)

# Са святам Перамогі!

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Будзе выстава пашуковага атрада "Абавязак"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Апоўдні ў пятніцу, 9 мая, у скверы на плошчы імя Гастэлы ў Радашкавічах будзе працаваць выстава. Яе ладзіць **Дзмітры Брыштэн**, сын арганізатара атрада "Абавязак" **Вячаслава** Брыштэна. На выставе будуць фота, дакументы і фотакалажы, якія сабралі удзельнікі атрада. Вячаслаў Брыштэн, якога ужо няма,сярод нас, арганізаваў працу атрада ў 1986 годзе, каб збіраць невядомыя раней звесткі пра Вялікую Айчынную вайну. Удзельнікі атрада вярнулі больш за сотню імён, праводзілі раскопкі.

### Двое забралі чужы ноўтбук у краме і трапілі на відэа

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 3 мая, мясцовая жыхарка забылася пакет з дакументамі і ноўтбукам, калі выходзіла з крамы "Еўраопт". Праз 10 хвілін вярнулася, але сваіх рэчаў не знайшла. Аднак тыя, хто пакваліліся на ноўтбук, не улічылі, што ў краме вядзецца відэаназіранне. "Пры праглядзе запісаў з камер відэаназірання ўстанавілі, што пакет з рэчамі забралі хлопец і дзяўчына", паведаміў начальнік аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязей УУС Мінаблвыканкама **Аляксандр Данільчанка.** Маладыя людзі выйшлі з крамы, селі ў прыпаркаваны аўтамабіль і з'ехалі. **Прыкметы пары.** Малады чалавек каля 30 гадоў, ростам каля 175-185 сантыметраў, з цёмнымі валасамі, сабранымі ў "хвосцік". Дзяўчына каля 25 гадоў, рост каля 170 сантыметраў, валасы рудыя, носіць акуляры ў аправе чорнага колеру. Відэа можна паглядзець на сайце rh.by. Калі вы іх пазналі, просім патэлефанаваць у міліцыю: **(8-01771) 3-63-48 або (8-029) 507-66-86.**

### У Мядзеле выдалі буклеты пра вайну

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзельскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка выдалі два буклеты. Называюцца яны – "Вайной параненыя душы: дзеці вайны Мядзельшчыны" і "Гісторыя Перамогі ў лёсе жанчын Мядзельшчыны". Буклеты выдадзены да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Задума буклетаў належыць ветэрану Вялікай Айчыннай вайны з к. п. Нарач (Купа), аўтару допісаў у "Рэгіянальную газету" **Міхаілу Чарняўскаму**. Ён жа сабраў большасць матэрыялаў. Гэтыя буклеты распаўсюдзяць па бібліятэках раёна. Іх будуць выкарыстоўваць пры падрыхтоўцы розных мерапрыемстваў.

**Аддзел інфармацыі.**



# Знайсці звесткі і вярнуцца. Жывой



Сям'я Ягоравых перад 9 мая. Злева направа: сын Валеры, нявестка Ларыса, Ганна Гардзееўна, сын Аляксандр.

**МАЛАДЗЕЧНА. Ганна Ягорава ў 16 год сустрэла вайну і стала разведчыцай-сувязной. Як жыла да вайны, што дапамагло атрымаць перамогу і якім было жыццё пасля яе, жанчына распавяла карэспандэнту "РГ".**

Цяпер былая партызанка Ганна Ягорава жыве ў Маладзечне, ёй 88 год.

Калі мы сустрэліся, яна толькі прыехала з лецішча. Жанчына працягвае доглядаць свой участак у Мароськах. Летась сабрала ўраджай фасолі і бульбы, а сёлета галоўнае – перакапаць. І хацела б прадаць, але ніхто не пытаецца, а зямлю ж не кінеш.

Жанчына дзеліцца ўспамінамі, падчас якіх раз-пораз прыгаворвае, што няма нічога страшней вайны. Але зразумець гэта толькі тыя, хто яе перажыў.

### Чатыры сястры засталіся сіротамі

Ганна нарадзілася ў вёсцы Урбанаўка Старадарожскага раёна, за 18 кіламетраў да райцэнтра. У сям'і Ягоравых было чатыры дзяўчынкі. Бацька працаваў на чыгунцы, мама гаспадарыла дома. Яны памерлі вельмі рана. Калі не стала мамы, Ганне было шэсць год. Бацька пайшоў з жыцця праз два гады.

Чатыры сястры засталіся адны. Старэйшай 10 год, малодшай Шуры – два. У дзяўчынак было 60 сотак калгаснай зямлі, якую яны апрацоўвалі пад лапату.

Самым страшным было начаваць адным. Да дзяўчынак прыставілі апякунку, дачка якой часам з імі начавала. Гэта была ўся дапамога.

Ганна хадзіла ў Вярхуцінскую школу чатыры класы. У старэйшыя класы хадзіла за дзевяць кіламетраў. Як сірату яе ўзяла на кватэру адна з настаўніц. Пасля закончыць сем класаў.

Сярод настаўнікаў асабліва запомніліся муж і жонка, якія выкладалі нямецкую мову.

– Яны ні слова не казалі па-нашаму, толькі па-нямецку. А мне так цікава было, што ж гэта яны гавораць. І можаце сабе ўявіць, што я амаль за адну зіму вывучыла нямецкую мову. І калі пачалася вайна, то добра яе ведала.

### Як дзяўчына стала разведчыцай

Калі пачалася вайна, ёй ішоў 16-ы год. Ганна прыгадвае, як упершыню ўбачыла немцаў:

– Я надаіла вядро малака. Іду – і тут раптам панесліся каля мяне немцы на матацыклах. Я так спужалася, што выпусціла вядро з рук. Яны закрычалі: "Milch, milch" – гэта значыць, малако. Нас яны не чапалі спачатку, толькі калі ўжо партызаны пайшлі.

**Самыя жорсткія былі паліцаі. У нашай хаце немцы знайшлі камсамольскі білет сястры. І ўявіце, немцы ўжо адступалі, а паліцай вярнуўся, каб забіць яе.**

Хутка пасля пачатку вайны ў Старых Дарогах сфарміраваўся партызанскі атрад. Яны ведалі, што Ганна разумее нямецкую мову і паклікалі да сябе. Старыя Дарогі – вузлавая станцыя. Немцы заўсёды правяралі рэйкі, каб не было мін. Але партызаны паціху падрывалі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Заканчэнне на 20-й старонцы.

КОНКУРСЫ

# Міс Беларусь баіцца крыві і не мае адбою ад кавалераў

**СМАРГОНЬ. Міс Беларусь стала 21-гадовая Вікторыя Мігановіч са Смаргоні. Пра Віку распавядае аднагрупніца Кацярына Лысюк і сяброўка па конкурсе "Міс Беларусь" Вікторыя Васілеўская, якая стала ўладальніцай тытула "Міс топ-мадэль".**

Біяграфія галоўнай прыгажуні краіны сціплая і зусім не зорная.

Віка нарадзілася ў вёсцы Ракаўцы, што пад Смаргонню. Базавую школу скончыла тут жа. 10-11 класс вучылася ў Крэўскай сярэдняй школе. Цяпер галоўная навіна на сайце школы, вядома, прысвечаная Вікторыі, і гучыць як "Наша Перамога".

Пасля заканчэння школы Вікторыя паехала вучыцца ў Мінск, у медыцынскі коледж. Яшчэ навучэнкай уладкавалася на працу ў медыцынскі цэнтр Кіравання справамі Прэзідэнта Беларусі. Яна і цяпер там працуе асістэнтам стаматолага.

Пасля конкурсу звязацца з Вікторыяй немагчыма. Тэлефон маўчыць, на старонцы ў сацыяльных сетках Віка ігнаруе ўсе пакінутыя ёй паведамленні. У мяне з'явілася адчуванне, што ўся Смаргонь святкуе перамогу сваёй зямлячкі і ніхто там не збіраецца падыходзіць да тэлефона. Доўгія гудкі ў прыёмнай школы, дзе вучылася Віка, доўгія гудкі па ўсіх тэлефонах, якія ў даведніку адпавядаюць прозвішчу Мігановіч.

Але ў нас усё ж такі атрымалася пагутарыць з сяброўкай Вікторыі па конкурсе. **Вікторыя Васілеўская,** уладальніца тытула "Міс топ-мадэль" кажа:

– Конкурс доўжыўся тры тыдні. За гэты час, зразумела, цяжка блізка пасябраваць і зразумець чалавека. Але Віку я запомню, як абсалютна спакойнага, ураўнаважанага чалавека. Я ні разу не чула, каб яна з кім сварылася, ці павышала голас. Заўсёды ўсміхалася, шмат жартавала. Увогуле конкурс запомніўся як адно з самых яскравых уражанняў і, маркую, не толькі для мяне. Зразумела, было цяжка з раніцы да вечара знаходзіцца перад фота і відэакамерамі. Я бачыла, як цяжка дзяўчатам, якія трапілі на падобны конкурс упершыню. Цэлымі днямі засвойваць асновы дэфіле, мадэльнай хады – гэта вельмі не проста. Але ніхто не скардзіўся, мы падтрымлівалі адна адну, і калі абвесцілі вынікі конкурса, шчыра радаваліся. Я лічу, што Віка вартая гэтай узнагароды, праўда.

**– Вікторыя, а як вы ставіцеся да такога меркавання, што ў конкурсах прыгажосці ўдзельнічаюць аднолькавыя, не вельмі разумныя, лялькі?**

– Я 1000 разоў з гэтым не пагаджуся. Усе дзяўчаты розныя, цікавыя і прыгожыя. Яшчэ на кастынгу журы вельмі падрабязна размаўляла з кожнай з нас, задавалі абсалютна розныя пытанні, у тым ліку і на веданне нейкіх рэчаў, і толькі потым абвяшчалі, якая прыгажуня можа паспаборнічаць за званне "Міс Беларусь". Ну як у людзей толькі язык паварочваецца называць удзельніц конкурсаў прыгажосці лялькамі?



Пераможца конкурсу "Міс Беларусь" Вікторыя Мігановіч са Смаргоні.

Фота ont.by.

### Віка ад выгляду крыві страціла прытомнасць

– Віка – мая аднагрупніца па коледжы, – кажа **Кацярына Лысюк, –** не магу сказаць, каб мы былі лепшымі сяброўкамі, але сябравалі і часу разам праводзілі шмат.

**– Прагульваючы заняткі?**

– Не, ну што вы! У нас з гэтым было вельмі строга. Ніхто занятк не прагульваў. Віка аднапачасова з вучобай працавала ў цэнтры, дзе працуе і цяпер. А па вечарах разам з намі бегала на дыскатэкі. І на ўсё хапала часу.

**– Падчас вучобы Вікторыя таксама прымала ўдзел у конкурсах прыгажосці?**

– Не, я не памятаю, каб Віка недзе прымала ўдзел. Затое памятаю, што на занятках увесь час сядзела ў інтэрнэце, ці пісала СМС-кі.

**– А з кім яна перапісвалася? З кавалерам?**

– Хутчэй, з кавалерамі. У Вікторыі іх было безліч.

**– А вучылася Вікторыя як? Усе іспыты без хвастоў здавала?**

– Ды я не памятаю ўжо. Мне запомнілася іншае. На першым курсе ў нас практыка была. Нас, навучэнцаў, прывялі ў бальніцу і дазволілі застацца паглядзець, як мужчыне будуць зашываць рану на руцэ. Аказалася, што Віка баіцца крыві, яна, убачыўшы гэтыя маніпуляцыі доктара са скурай чалавека, проста страціла прытомнасць. І яшчэ. Вікторыя як мадэль, ніколі на дыетах не сядзела. Усё гэта прыдумкі, што мадэлі харчуюцца толькі капуснымі лістамі. Віка разам з намі добра ў сталоўцы булкі ўмінала!



Фота smorgon.org.

Такой была будучая міс у 9-м класе.

**Наталля ТУР.**

**Больш фота на сайце**

Rh.by

ФЕСТЫВАЛІ

# Экстрэмальныя забавы з тараканамі на балі ў Гальшанах

**АШМЯНЫ. Юбілейны пяты фестываль "Гальшанскі замак" у Гальшанах абяцае ўдзельнікам шмат сюрпрызаў: мюзікл "Баль у Соф'і Гальшанскай" проста пад сценамі замка, забегі мадагаскарскіх тараканаў і іншае.**

Адбудзецца падзея ў суботу, 24 мая. Пляцоўкай для фестывалю стануць сцены Гальшанскага замка.

Летась на мерапрыемства прыехалі пяць тысяч ахвотных акунуцца ў гісторыю. Колькі будзе сёлета, застаецца толькі здагадвацца, але ўжо цяпер вельмі шмат званкоў ад жыхароў сталіцы, распавяла начальніца аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі **Галіна Балінская**.

Людзі гатовыя ехаць, каб пабачыць першы нацыянальны беларускі мюзікл "Баль у Соф'і Гальшанскай" па Уладзіміру Кандрусевічу наўпрост пад сценамі замка. Арганізатары фестывалю запрасілі паказаць пастаноўку трупу Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.

### Што ў праграме

Конна-гістарычны клуб "Залатая шпора" у тэатралізаваным шоу пакажа чатыры эпохі беларускай кавалерыі. Гэта Полацкае княства, Вялікае княства Літоўскае, Рэч Паспалітая і 1812 год.

Турнір лучнікаў, рыцарскія баі, майстар-клас па фехтаванні, па нарыхтоўцы кованых вырабаў чакаюць гасцей Гальшанаў.

Сярод незвычайных і новых забаў на фестывалі – забегі мадагаскарскіх шыпячых тараканаў. Арганізоўвае іх экстрым-тэатр "Берсерк". Нават можна будзе рабіць стаўкі.

Акрамя гэтага, будзе магчымасць навучыцца сярэднявечным танцам і атрымаць майстар-класы па розных відах народнай творчасці.

Без старадаўняй музыкі госці фестывалю таксама не застануцца. Пройдзе канцэрт з удзелам калектываў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Сярод запрошаных калектываў – фальклорны ансамбль "Баламуты", капэла беларускіх народных духавых інструментаў і гурт сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса".

Будуць працаваць горад майстроў, дзіцячыя пляцоўкі.

Запланаванае і вогненнае шоу.

**Настасся РОЎДА.**



Фота zoonovosti.by.

Гальшанскі фэст.

### Папраўка

У папярэднім нумары "РГ" на 2-й старонцы ў артыкуле "Драмтэатр рыхтуе некласічны спектакль" дапушчаная недакладнасць. Галоўную ролю выконвае Барыс Донін. Просім прабачэння ў чытачоў.

ЧЫГУНКА

# Змяняецца расклад электрычак на час Чэмпіянату свету па хакеі

**МАЛАДЗЕЧНА. У сувязі з правядзеннем Чэмпіянату свету па хакеі ад 9 да 25 мая часткова змяняецца расклад цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа на ўчастку Маладзечна-Мінск.**

| 9, 10 мая і з 12 мая па 20 мая | | |
|---|---|---|
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 10:50 | 10:45 | 12:33 |
| 15:33 | 15:39 ад Мінск-Паўночны | 17:19 |
| 19:45 | 19:55 | 21:34 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 12:39 | 12:36 | 14:09 да Мінск-Паўночны |
| 13:13 | 13:13 | 14:54 да Мінск-Паўночны |
| 17:50 | 17:48 | 19:23 да Мінск-Паўночны |
| **11 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 10:50 | 10:45 | 12:33 |
| 12:45 | 12:57 ад Мінск-Паўночны | 14:39 |
| 14:50 | 14:40 | 16:25 |
| 16:33 | 16:50 | 18:34 |
| 20:44 | 21:05 | 23:06 |
| **12 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 00:26 | 00:31 | 02:11 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 12:39 | 12:36 | 14:14 у Мінск |
| 14:49 | 14:56 | 16:38 да Мінск-Паўночны |
| 17:50 | 17:54 | 19:34 у Мінск |
| 18:45 | 18:58 | 20:54 у Мінск |
| **22 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 14:50 | 14:40 | 16:25 |
| 19:45 | 20:13 ад Мінск-Паўночны | 21:47 |
| 20:44 | 20:47 | 22:47 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 13:13 | 13:18 | 15:04 у Мінск |
| 17:50 | 18:15 | 19:50 да Мінск-Паўночны |
| **24 мая** | | |
| Адпраўленнем з Мінска | Будзе адпраўляцца | Прыбываць у Маладзечна |
| 17:27 | 17:37 ад Мінск-Паўночны | 19:27 |
| 22:03 | 22:08 ад Мінск-Паўночны | 23:42 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 11:00 | 11:20 | 12:59 да Мінск-Паўночны |
| 12:39 | 12:39 | 14:12 да Мінск-Паўночны |
| 15:51 | 15:26 | 17:06 да Мінск-Паўночны |
| 19:52 | 19:52 | 21:34 да Мінск-Паўночны |
| **25 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 14:50 | 14:40 | 16:25 |
| 15:33 | 15:38 ад Мінск-Паўночны | 17:19 |
| 20:44 | 20:50 ад Мінск-Паўночны | 22:45 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 13:13 | 13:13 | 14:54 да Мінск-Паўночны |
| 18:45 | 18:50 | 20:32 да Мінск-Паўночны |

Тел. для даведак **(8-0176) 74-24-23.**

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі станцыя Маладзечна УНП 600199541

БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫЯ

# Каб не трапіць ў пастку да махляра...

**МАЛАДЗЕЧНА. У апошні час на тэрыторыі Маладзечанскага раёна павялічылася колькасць крадзяжоў асабістай маёмасці.**

Махляры пад выглядам варажбы, зняцця сурокаў, аказання нейкіх сацыяльных паслуг, а таксама продажу рэчаў уваходзяць у давер да людзей, асабліва да састарэлых і непаўналетніх, крадуць грошы, асабістую маёмасць. У сувязі з гэтым, Маладзечанскі райаддзел унутраных спраў папярэджвае:

– не паддавайцеся спакусе даведацца пра сваю будучыню ў чалавека, які прадстаўляецца вам варажбіткай. Не пагаджайцеся на настойлівыя прапановы зняць сурокі, таму што 30 такімі маніпуляцыямі хаваецца толькі вымаганне грошай;

– ні ў якім выпадку (ці гэта прапанова набыць пасцельную бялізну, бытавыя прыбораў, ці просьба дапамагчы грашыма ці ежай) не пускайце ў сваі дамы незнаёмых. Не пакідайце незачыненымі дзверы і ключы ў дзвярах;

– не набывайце з рук ювелірныя ўпрыгожанні і каштоўныя металы. Яны хутчэй за ўсё падробленыя;

– памятайце, што ваш выпадковы суразмоўца можа валодаць дарам гіпнозу і перакanання;

Калі вы заўважылі падазроных асоб або сталі сведкам супрацьпраўных дзеянняў, якія здзяйсняюцца такімі асобамі, па магчымасці імкніцеся добра запомніць іх прыкметы і нумар транспартнага сродку, на якім гэтыя асобы перамяшчаюцца, паведаміце пра гэта ў маладзечанскі райаддзел унутраных спраў па тэлефонах: **102; 8 (029) 639-15-73; 8 (029) 753-99-40,** ці свайму ўчастковаму інспектару.

**Маладзечанскі райаддзел унутраных спраў.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Гарачую ваду адключаць адразу ў Вілейцы, а потым – на Мядзельшчыне

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ.** Гарачая вада ў Вілейцы будзе адключана з 12 па 25 мая. У гэты час правядуць гідраўлічныя выпрабаванні цеплавых сетак.

У сувязі з рамонтам кацельняў, гарачай вады не будзе ў к. п. Нарач (Купа) з 26 па 30 мая, у Мядзеле – з 2 па 14 чэрвеня. Пра гэта паведаміў першы намеснік генеральнага дырэктара Мядзельскай ЖКГ **Уладзімір Шабовіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

| **Курсы валют НБ РБ** | **1.05** | **7.05** |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 9 980,00 | **9 990,00** |
| **Еўра** | 13 840,00 | **13 900,00** |
| **Злоты** | 3 287,22 | **3 306,36** |
| **Літ** | 4 010,21 | **4 027,33** |
| **Расійскі рубель** | 277,00 | **280,00** |
| **Грыўня** | 864,07 | **855,67** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 28.04/6.05** | | |
| **Долар ЗША** | 9980/10030 | **13860/13940** |
| **Еўра** | 13800/13890 | **9980/10010** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| **ПРАДУКТЫ** | **30.04** | **6.05** |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 56900 | **45950** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26800 | **24300** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 79000 | **79000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 29500 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 34000 | **34500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 102000 | **102000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9700 | **9700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9000 | **9000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13000** |
| **Алей "Кум"** | 14500 | **14500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 8500 | **7500** |
| **Капуста**, 1 кг | 14000 | **11000** |
| **Морква**, 1 кг | 7500 | **8000** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **7000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 26000 | **26900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | **13500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 21500 | **26500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 22900 | **18500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 24500 | **20000** |
| **Перац**, 1 кг | 36900 | **35000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 39500 | **35000** |
| **Бананы**, 1 кг | 18500 | **18500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8900 | **10900** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 23900 | **20900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **45000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 25000 | **25000** |
| **Сала**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Грошы на пахаванне аддаў на прастытутку

## Маладзён абакраў 84-гадовую бабулю і прагуляў грошы

**МАЛАДЗЕЧНА. 40-гадовы мужчына жыў у 84-гадовай бабулі ў Маладзечанскім раёне. За гэта дапамагаў ёй па гаспадарцы, паліў печ, насіў ваду.**

Так жылі чатыры гады.

У адзін з дзён у лютым гаспадыні не было дома. Мужчына заўважыў у яе пакоі схаваны скрутак, які ляжаў паміж столлю і бэлькай. У ім было 5,5 мільёнаў рублёў і 260 долараў. Мужчына іх скраў.

У судзе мужчына раскаяўся, але грошы не вярнуў. Грошы ён ужо патраціў на ежу, спіртное і таксі. Частка грошай пайшла на паслугі прастытуткі, а таксама каб прывезці яе на таксі з Мінска да сябе.

Жанчына патлумачыла, што гэтыя грошы адкладвала на пахаванне.

Мужчыну суд прызнаў вінаватым у крадзяжы, які здзейсніў другі раз. Яму прызначылі пакаранне – арышт на паўгода. Ён таксама павінен вярнуць бабулі скрадзенае.

Асуджаны ўжо меў судзімасць за крадзеж.



Фота blog.unet.by

**Мужчына скраў грошы ў бабулі, у якой жыў чатыры гады, каб прывезці на таксі з Мінска жанчыну па выкліку.**

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 3 класа.**

● ЗДАРЭННІ

## Дзесяць чалавек эвакуіравалі на пажары

**МЯДЗЕЛ. Каля трох гадзін ночы 4 мая паступіла паведамленне пра тое, што ў к. п. Нарач (Купа) гарыць балкон. Пажар узнік на чацвёртым паверсе шматкватэрнага дома па вуліцы Кастрычніцкай.**

– Па прыбыцці выратавальнікаў гарэлі балкон і кватэра, агонь распаўсюдзіўся таксама на дах дома, – расказаў галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Юры Вашкінэль**.

Жыльцы кватэры самі заўважылі пажар і эвакуіраваліся. Узнікла неабходнасць эвакуіраваць і жыльцоў суседніх кватэр. Усяго эвакуіравалі 10 чалавек. Людзі на пажары не пацярпелі.

А вось балкон згарэў, выгараў пакой з маёмасцю, пашкоджаны дах дома.

Прычыны здарэння высвятляюцца.

**Аддзел інфармацыі.**

● МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць тэлефон "Самсунг"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае тэлефон "Самсунг GT-S5380D".

Яго згубілі каля 21 гадзіны 11 красавіка ў краме "БелМаркет" па Вялікім Гасцінцы, 73.

Калі вы ведаеце, дзе гэты тэлефон, пераканаўча просім паведаміць па тэлефонах **8(029) 709-21-75, 8(0176) 74-68-55** ці **102**. Ананімнасць гарантуем.

## Шукаюць скрадзеную каляску

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яе скралі з пад'езда шматпавярхоўкі. Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта шукае злачынцу.

Злодзей у перыяд ад 16 гадзін 8 сакавіка да 13 гадзін 9 сакавіка скраў дзіцячую каляску.

Цёмна-сіняя каляска з жоўтымі ўстаўкамі "Gustaw 2" стаяла ў першым пад'ездзе дома №138-А па Вялікім Гасцінцы.

Пераканаўча просім тых, хто штосьці ведае пра гэта здарэнне, патэлефанаваць па нумары **8(0176) 58-07-83** ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні следчаму **Кацярыне Акімавай.**

**Паводле паведамленняў Маладзечанскага райаддзела міліцыі і Следчага камітэта.**

## Дапамажыце змагацца з самагонам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Вы можаце дапамагчы пазбегнуць трагічных наступстваў.

Цягам апошніх дзесяцігоддзяў у Беларусі распаўсюджваецца п'янства, павялічваецца колькасць тых, хто стаіць на наркалагічным уліку. Усё больш тых, хто злоўжывае алкаголем і пакутуе на хранічны алкагалізм.

Нягледзячы на тое, што ў крамах ёсць шырокі выбар алкагольных напояў, многія аддаюць перавагу прадукту ўласнай вытворчасці – самагону. Спажыўцоў не пужаюць магчымыя трагічныя наступствы ўжывання самагона, хаця пра гэта рэгулярна распавядаюць розныя службы.

Калі вам вядома, што хтосьці вырабляе ці прадае самагон, просім паведаміць па тэлефоне **8(029) 863-70-46** у апаратыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага аддзела унутраных спраў на транспарце.

**Міхаіл ГУД, начальнік Маладзечанскага АУСТ.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У аварыі зачапіла пешахода

**МАЛАДЗЕЧНА.** 2 мая а 19 гадзіне здарылася аварыя каля музкаледжа.

19-гадовы кіроўца аўто "Опель Астра", навучэнец 3 курса політэхнічнага каледжа, ехаў па Вялікім Гасцінцы з боку Смаргоні. Пры павароце налева на вуліцу Таміліна не саступіў дарогу "Рэно", за рулем якога быў 21-гадовы кіроўца. "Рэно" ехала з боку Мінска прама.

У гэты час на пешаходным пераходзе каля музкаледжа стаяла 24-гадовая маладзечанка. Яна чакала зялёнае святло святлафора.

Сутыкнуўшыся з "Опелем", "Рэно" наехала на жанчыну. Ад удару ахвяры пашкодзіла правую нагу. Жанчыну забрала "Хуткая дапамога".

## У Граніча уехаў у дрэва

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каля 5 раніцы 27 красавіка адбылася аварыя ў вёсцы Граніча.

23-гадовы кіроўца "Мазды 606" рухаўся па вуліцы Мінскай. Няправільна выбраўшы хуткасць, не справіўся з кіраваннем. У выніку наехаў на прыдарожнае дрэва.

Кіроўца атрымаў закрыты пералом левага локця. Яго завезлі ў траўматалагічнае аддзяленне.

## БМВ перакулілася ў кювеце

**МАЛАДЗЕЧНА.** Вечарам 3 мая адбылася аварыя на аўтадарозе Радашкавічы – Алёхнавічы – Гарадок каля Токараўшчыны.

23-гадовы кіроўца з Мінска за рулём "БМВ 323" на закругленні ўправа няправільна выбраў хуткасць і не справіўся з кіраваннем.

Машына з'ехала ў левы па ходзе руху кювет і перакулілася. Пацярпеў 19-гадовы пасажыр. Ён параніў галаву і плячо. У бальніцы пасажыру наклалі швы і адпусцілі дамоў.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Звольнілі з работы за п'янства

### Наймальнік не змог даць суду дастатковыя доказы: пайшлі на міравое

**МАЛАДЗЕЧНА. Ці можна звольніць работніка за п'янства і як дзейнічаць, калі на рабоце здарылася такое парушэнне.**

Калі работнік прыйшоў на працу ў стане алкагольнага, наркатычнага ці таксічнага ап'янення, ці ўжываў адпаведныя сродкі ў рабочы час ці на рабочым месцы, яго можна звольніць. Можна скасаваць працоўны дагавор на няпэўны тэрмін ці тэрміновы дагавор да заканчэння тэрміну.

Менавіта з гэтай нагоды звольнілі работніка аднаго з прадпрыемстваў Маладзечна. Як сцвярджае наймальнік, работнік прыйшоў на працу п'яны. Правялі медыцынскі агляд алкатэстэрам. На падставе вынікаў тэста яго звольнілі.

Работнік не пагадзіўся з такім звальненнем і звярнуўся ў суд. Ён патлумачыў, што спіртное ўжываў вечарам. З вынікам медагляду нязгодны: перад ім у алкатэстэр дыхалі і іншыя работнікі. А пасля медагляду наймальнік адправіў яго працаваць.

Наймальнік не меў доказаў, якія б абверглі сказанае работнікам. Таму ў судзе бакі прыйшлі да міравога пагаднення, адзін аднаму саступіўшы.

Наймальнік не быў упэўнены ў законнасці прынятага ім рашэння звольніць работніка. У спрэчнай сітуацыі важкім аргументам для наймальніка стала б заключэнне медагляду ў спецыялізаванай установе. Але наймальнік не прывёз работніка на прафесійны медагляд, а адправіў яго працаваць.

Калі б суд прызнаў звальненне незаконным, наймальнік мусіў бы аднавіць работніка на працы, выплаціць грошы за час вымушанага прагула і кампенсаваць маральны ўрон.

### Як дзейнічаць, калі работнік п'яны

Наймальніку трэба належным чынам зафіксаваць тое, што работнік нецвярозы. Алкагольнае, наркатычнае і таксічнае ап'яненне можна падцвердзіць медыцынскім заключэннем. Агляд праводзяць па прапанове наймальніка ў той дзень, калі заўважылі парушэнне. Да гэтага дадайце іншыя дакументы: акт, паказанні сведкаў.

Калі работнік адмовіўся праходзіць медагляд, то наймальнік у прысутнасці сведкаў складае акт ці пратакол. У ім ён тлумачыць, дзе і ў чыёй прысутнасці заўважылі п'янога работніка, апісвае яго паводзіны, пах, рухі. Зауважае, што прапанаваў прайсці медагляд і якую атрымаў рэакцыю. Дакумент падпісваюць прысутныя.

Медыцынскае заключэнне складае доктар наркалагічнага дыспансера ці медпункта арганізацыі.

**Дзяніс ГІРЛОЎСКІ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**



КОНКУРСЫ

## Выберуць роварныя маршруты

**ВІЛЕЙКА. Да 23 мая праходзіць раённы конкурс веласіпедных маршрутаў "Вілейшчыне – устойлівае развіццё".**

Для ўдзелу ў ім жыхары Вілейшчыны мусяць распрацаваць і аформіць у электронным выглядзе веласіпедны маршрут па Вілейскім раёне. Ён павінен быць цікавым, адлюстроўваць славутасці раёна, быць прывабным з турыстычнага і экалагічнага пункту гледжання. Маршрут мусіць мець назву, прыпынačныя пункты з апісаннем. Неабходна таксама пазначыць агульную працягласць маршруту і адлегласць паміж аб'ектамі.

Фармат працы можа быць любым: мультымедыйная прэзентацыя, відэаролік, слайд-шоу і г. д.

– Конкурс праводзіцца не толькі для таго, каб выбраць лепшыя веласіпедныя маршруты, а і каб потым з іх дапамогай развіваць турыстычны патэнцыял Вілейшчыны, – расказала старшыня грамадскага аб'яднання па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага рэгіёна "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**. – Цікавасць да конкурсу ёсць, нават пры сустрэчы на вуліцах пра яго распытваюцца.

Конкурсныя працы прымаюцца да 23 мая на электронным носьбіце (дыск альбо флэшка). Працу разам з заяўкай на ўдзел з указаннем імя і прозвішча, месцам працы ці вучобы, узросту, тэлефона можна падаць па адрасе: Вілейка, вул. Партызанская, 44, кабінет №3 або даслаць па электронным адрасе **titulenko65 @tut.by**.

Ацэніць працы рабочая група. У яе склад увойдуць прадстаўнікі раённага Савета дэпутатаў, райвыканкама, грамадскіх арганізацый.

Пераможцаў узнагародзяць каштоўнымі падарункамі, астатнія ўдзельнікі конкурсу атрымаюць памятныя сувеніры. Па выніках конкурсу правядуць прэзентацыю лепшых праектаў. Тэлефоны для даведак такія: **8-01771-56588, 56089**.

Дарэчы, грамадскае аб'яднанне закупіла веласіпеды. Імі пры жаданні змогуць бясплатна скарыстаць ахвотныя апрабаваць веласіпедныя маршруты.

Алесь ВЫСОЦКІ.

АСОБА

# Каб усё выпускніку паспець – трэба час размеркаваць

**ВІЛЕЙКА. Звычайна бывае так: вучань вылучаецца ці ў вучобе, ці ў спорце, ці старанна ўдзельнічае ў пазашкольных мерапрыемствах.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Мікіта Біслюк упэўнены, што хімія спатрэбіцца яму ў жыцці.

А адзінаццацікласніку сярэдняй школы №3 Вілейкі Мікіце Біслюку ўдаецца паспяхова спраўляцца з гэтым усім.

У вучобе ён на медаль ідзе ды ў прадметных алімпіядах вынікова ўдзельнічае. Сёлета заваяваў дыплом першай ступені на абласной алімпіядзе па хіміі, другой ступені – на рэспубліканскай. Больш падрабязна пра гэта ды іншыя яго захапленні зараз і даведаемся.

**– Мікіта, інтарэсаў у жыцці ў цябе шмат. Давай пачнём з хіміі.**

– Хімія – гэта самы любімы мой прадмет у школе, і для паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову спатрэбіцца.

**– Як зацікавіўся ёй?**

– Як пачалі вывучаць, нейкая ўнутраная цяга з'явілася, больш за астатнія прадметы мяне хімія зацікавіла. Ды і настаўніца хіміі – **Ала Мікалаеўна Квяткевіч** – цікава прадмет выкладае.

**– Яшчэ якія ў цябе захапленні?**

– Музыка. Займаўся ў дзіцячай школе мастацтваў. Адразу бацькі паставілі перад фактам, што трэба займацца музыкай, і я выбраў клас скрыпкі. Завяршыў навучанне, і цяпер працягваю для сябе займацца, каб навыкі не губляць. Іграю ў ансамблі скрыпачоў дзіцячай школы мастацтваў "Камплімент". Што яшчэ? Спаборнічаю ў інтэлектуальных гульнях – у складзе нашай каманды "Неасакрацікі". Удзельнічаў у аглядах мастацкай самадзейнасці як саліст.

**– І ў шахматы добра гуляеш...**

– Займаюся ў шахматным гуртку ў школе. Шахматамі заняўся дзесьці з шостага класа. Сябры параілі, што цікава. І сапраўды: наведаў гурток і зацікавіўся. Трэнер **Аляксей Міхайлавіч Гатоўка** пераканаў, што гульня развівае мысленне. Мне падабаецца разгадваць стратэгію праціўніка. Удзельнічаю ў спаборніцтвах, і кожнае з іх мае для мяне нейкі сэнс.

**– Якія найбольшыя поспехі?**

– Перамагаў у гарадскіх спаборніцтвах.

**– У цябе столькі захапленняў, а клас выпускны. Як усё паспяваеш?**

– Стараюся, бо хочацца закончыць школу з медалём. Для гэтага трэба шмат часу і намаганняў – спрабую ўсё паспець.

**– А сябры, камп'ютар, вуліца – на гэту часу хапае?**

– Вядома.

**– Цікава, як так удаецца?**

**– Проста мяне шмат што цікавіць, і стараюся час размеркаваць так, каб кожны дзень пакрысе ў нечым прасунуцца наперад.**

**– Хімія, музыка, шахматы – такое ўсё рознае...**

– Лічу, што ў жыцці ўсё спатрэбіцца. Хачу стаць фармацэўтам – бо з усіх накірункаў, звязаных з хіміяй, гэты падабаецца найбольш. Так што хімія з будучай прафесіяй звязана. А шахматы, музыка – яны дапамагаюць зрабіць больш разнастайным жыццё.

**— Такое ўражанне складваецца, што ў кожным са сваіх захапленняў хочаш поспеху дамагчыся.**

– Можа, нешта такое і ёсць – пошук дасканаласці, імкненне да лепшага ў самаразвіцці.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Слова пра вучня

Намеснік дырэктара школы **Тамара Томкавіч**:

– Супрацоўнічаць з Мікітай пачалі, калі ён вучыўся ў шостым класе – на аглядзе мастацкай самадзейнасці. На школьных вечарах ён і спявае, і вядучым можа быць. Да таго ж, чалавек адказны: калі сказаў, што зробіць, то зробіць і будзе старацца давесці справу да дасканаласці. Такая вось рыса характару. Тое, што ў Мікіты разнастайныя захапленні, яму не перашкаджае, а толькі дапамагае.


Фота Наталлі ТУР.

Дзмітры Ганецкі трымае ў руках Рагатага Касіса. Гэта адна з нямногіх ракавін, па якой можна вызначыць пол яе жыхара. Дзмітры трымае ракавіну самкі. У самца вусце (адтуліна на ракавіне) вузейшае і больш доўгае.

ЗАХАПЛЕННЕ

# Скарбы Нептуна ў гімназіі-каледжы

**МАЛАДЗЕЧНА. Захапленне морам і яго жыхарамі – гэта як невылечная хвароба для настаўніка экалогіі з Маладзечанскай гімназіі-каледжа мастацтваў Дзмітрыя Ганецкага. Дзеля свайго захаплення ён гатовы і спаць на ракавінках і перапісваць другі том "Жыцця жывёл" у чатыры агульныя сшыткі.**

А пачалося ўсё даўным-даўно. Яшчэ вучнем чацвёртага класа маці адвезла малога Дзіму на мора, каб вылечыць ад хваробы.

– А так атрымалася, – кажа Дзмітры, – што ад адной хваробы вылечылі, а другой захварэў, і, мяркую, ужо назаўжды.

Сваю марскую калекцыю Дзмітры папаўняе штогод на 15-20 новых відаў. На маё пытанне, якім чынам адбываецца папаўненне калекцыі, Дзмітры адказвае:

– Калі ёсць магчымасць, я заўсёды еду на мора. Адтуль прывожу ракавінкі, якія збіраю сам і набываю ў краме. На Чорным моры няма недахопу ў каралах, ракавінах, марскіх зорачках. Больш экзатычных марскіх жыхароў я набываю праз інтэрнэт. У маёй калекцыі ёсць, напрыклад, крабы з Філіпінаў. Вельмі дапамае мне з набыццём экспанатаў мой пляменнік **Максім Бурдзілаў**. Ён і ў інтэрнэце шукае сайты цікавыя, і з дастаўкай дамаўляецца.

**– Ваша захапленне нятаннае?**

– У месяц на сваё захапленне я дазваляю сабе выдаткоўваць каля 100 даляраў. Але ў маёй калекцыі ёсць экзэмпляры, якія каштуюць нашмат даражэй. Напрыклад, ціхаакеанскі каралавы трытон каштуе каля 200 даляраў, а алоўкавы вожык белага колеру каштуе 70 даляраў.

**– Дзе вы захоўваеце вашае багацце, калі не праходзяць выставы?**

– У кватэры. Уся мая кватэра быццам марское дно. Я нават сплю на ракавінках. Я не жартую: ракавіны захоўваюцца ў скрынях у канапе. А яшчэ мае экспанаты ўжо "палезлі на сцены". Я вымушаны рабіць паліцы, каб частку калекцыі размясціць там. Так што ў сваёй кватэры я адчуваю сябе Нептунам.

**– Якім са сваіх экспанатаў даражыце больш за ўсё?**

– У маёй калекцыі ёсць скат. Я сам яго злавіў у Чорным моры. Мяркую, што ён быў не зусім здаровы, таму што рухаўся вельмі павольна. Але і з хворым скатам я пракорпаўся хвілін сорак. Калі я выцягнуў яго на бераг, зляцеўся ўвесь пляж паглядзець на гэта дзіва прыроды. Усе захапляліся, а ўва мне змагаліся два пачуцці. Пачуццё калекцыянера, які вельмі хацеў мець у сваёй калекцыі ската, з пачуццём эколага. Мая экалагічная душа проста галасіла ад таго, што даводзіцца забіваць жывую істоту. Я даў сабе зарок ніколі больш не забіваць ніякіх марскіх жывёл, як бы мне не хацелася іх мець у сваёй калекцыі. Але таго ската ўсё ж такі забіў. Але знайшоў сабе апраўданне, што я раблю гэта яшчэ і з адукацыйнай мэтай. Пагадзіцеся, паказваць на ўроках сапраўднага ската ці яго здымак – розныя рэчы.

**– А як вы яго везлі праз мяжу?**

– Я зрабіў насычаны салявы раствор і паклаў ската ў пакет. Іншая справа была, калі я два гады таму вёз цэлую сумку ракавін. Сумка была такая вялікая, з доўгімі ручкамі, у клетачку, ведаеце, чаўнакі з такімі ездзяць. У цягніку мытнік памацаў маю сумку і пытаецца: "А што там унутры?" Я адказваю: "Ракавіны". Ён мне: "Цэлая сумка ракавін?" Я разумею, што трэба неяк выкручвацца і гавару: "Ды не, там яшчэ маска, ласты, акваланг". Уяўляеце, я сказаў яму, што ў мяне там акваланг! А мытнік такі: "Ну ладна." І пайшоў.

**– Я бачу ў вашай калекцыі нейкую незвычайную істоту, падобную на танк. Хто гэта такі?**

–А, гэтая пачвара, – ажыўляецца Дзмітры,– зусім не пачвара. Гэта мечахвост. Ён сапраўды падобны да танка ці да каўша, як каму больш падабаецца. Але гэта не проста зусім бяскрыўдная жывёла, але і вельмі карысная. Вы ведаеце, у мечахвостаў блакітная кроў. У краінах, дзе ён водзіцца, яго кроў выкарыстоўваюць, каб вызначаць захворванні людзей. Мечахвостаў ловяць, бяруць неабходную колькасць крыві і адпускаюць зноў у мора. А на падставе гэтай крыві робяцца тэсты, якія дазваляюць даведацца, ці ёсць у арганізме чалавека бактэрыі, якія могуць выклікаць заражэнне крыві. Пагадзіцеся, што ён вельмі прыгожы. І не падыходзіць ні пад адну біялагічную класіфікацыю. Гэта не рак, не павук. Гэта – марсіянін. Адно вучоныя ведаюць дакладна: мечахвосты жылі раней за дыназаўраў.

**– Ці ёсць нейкая марская істота, якую вы марыце бачыць у сваёй калекцыі?**

– Зараз больш за ўсё я мару пра музей. Я сам магу праводзіць экскурсіі і рыхтаваць экспанаты для паказу. Спрабаваў рабіць дыярамы, здаецца, у мяне атрымоўваецца. Галоўнае пытанне – гэта грошы. Я спадзяюся, што знойдзецца чалавек, якому гэтая тэма будзе цікавай. А што датычыцца экспанатаў, то я зразумеў даўно, што кропку ў маёй калекцыі паставіць немагчыма. Толькі шматкроп'е...



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

ВЫСТАВЫ

# Маладая мастачка здзівіла віляйчан абстракцыянізмам

**ВІЛЕЙКА. Мяркуеце, што прафесія прадаўца не вельмі спрыяе творчасці? А вось і не, даказала маладая віляйчанка Вольга Пескавая. І прадставіла персанальную выставу "ART. O.", якая зараз праходзіць у зале выстаў імя Сілівановіча Вілейскага краязнаўчага музея.**

Раней Вольга спрабавала сябе ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, а год пяць таму пачала маляваць, прыйшла да абстрактнага жывапісу. Зараз займаецца ў мастацкай студыі **Эдуарда Мацюшонка**.

На выставе прадстаўленыя працы апошніх год – тут іх больш за 30.

– Што для вас гэта выстава азначае? – пытаю ў мастачкі.

– Для мяне гэта знамянальная падзея. Бо я магу пазнаёміць віляйчан са сваім светам, так, як я яго бачу.

– Праходзіць выстава ў межах праекта ART-Вілейка "Творчы шлях", – расказала навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Калі раней на мерапрыемствах праекта прэзентавалі сучаснае мастацтва з дапамогай лекцый і мультымедыйных тэхналогій, то цяпер прапануем гледачам пазнаёміцца з сучасным мастацтвам ва ўяўленні маладой віляйчанкі. На адкрыцці выставы было шмат моладзі, што вельмі прыемна. Вольга знаёміла гледачоў са сваімі працамі не толькі распавядаючы пра гісторыю іх стварэння, але і з дапамогай вершаў любімага паэта Барыса Пастэрнака.

Арганізатары і назву выставы прыдумалі сімвалічную.

– Яна называецца "Арт. О.", што значыць "мастацтва Вольгі", – працягвае аповед Надзея. – І на нашай афішы гэтае "О" намалявана як бы з крыламі. У тым сэнсе, што мастацтва – яно фундаментальнае, яно застаецца, а вось сама Вольга – яна будзе ляцець у гэтай прасторы мастацтва і нешта новае ствараць.

Працы мастачкі падзеленыя па серыях. Адна з іх – "Вандроўка мышаняці". Расказваюць, мастачка недарэмна выбрала такі вобраз. Вольга атаясамлівае сябе з такім мышанём: яна таксама жыве не напаказ, у сваім свеце. Вандруе, бачыць, перажывае – і ўсё гэта адлюстроўваецца ў палотнах.

Апроч абстрактных прац, на выставе прадстаўленыя аплікацыі. З дапамогай паперы, кардону і тканіны Вольга стварае працы, якімі можна ўпрыгожыць інтэр'ер.

– У кнізе водгукаў вельмі добра пішуць пра гэту выставу. Бо для Вілейкі гэта незвычайна: у нас часцей праходзяць выставы рэалістычнага жывапісу, а тут абстракцыянізм, – дзеліцца Надзея Аўдзей. – Калі людзі прыходзяць, яны адразу не разумеюць, але паступова пачынаюць углядацца ў гэтыя палотны, складаюць сваё ўяўленне і многія застаюцца ў захапленні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота забяспечана Надзеяй АЎДЗЕЙ.

На адкрыцці выставы Вольга Пескавая знаёміла моладзь са сваімі працамі з дапамогай вершаў.

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**166**

**Рэгіянальная газета. Rh.by** ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

## ВІНШАВАНКА

**Віншуем з юбілеем КРЫВАШЭЯ Аляксандра з Маладзечна!**

Жадаем моцнага здароўя,сямейнага дабрабыту, усіх зямных даброт.

*Пусть солнце тебя в этом мире согреет,*
*Господь для тебя добра не жалеет.*
*Пусть ветер уносит печали и горе,*
*А радости будет пусть целое море.*
*Желаем здоровья, любви и тепла,*
*Чтоб жизнь интересной и долгой была.*
*Чтоб в доме уют был, любовь да совет,*
*Чтоб дом защищен был от горя и бед!!*

**З павагай брат Валодзя і яго сям'я.**

В УО «**Молодечненский государственный медицинский колледж**»
17 мая 2014 г. в 10.00 состоится
**ДЕНЬ ОТКРЫТЫХ ДВЕРЕЙ**
УНП 600091213

**14.05.2014 года с 10.00 до 12.00** начальник Молодечненского филиала РУП «Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру» **БОРИСЕНКО Владимир Васильевич** проводит «ПРЯМУЮ ЛИНИЮ» по вопросам относящимся к деятельности Молодечненского филиала тел: **(8-0176) 75-73-51**
УНП 600199462

**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце Rh.by**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

Астравец - 01591,
Ашмяны - 01593,
Валожын - 01772,
Вілейка - 01771,
Маладзечна - 0176,
Мядзел - 01797,
Смаргонь - 01592.

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі 80, 1987 г.в., 1,8, цёмна-сіні, добры стан, 3350 у.а., торг. Т. (8-029) 2341268.

• Вольва S 60, 2,4 бензін (атмасферны), МКП, шэра-фіялетавы металік, 121 тыс.км, ёсць усё, 12300 у.а., торг. Т. (8-029) 1755527.*

• ГАЗ-31029, 1996 г.в., газ-бензін, аб'ём 2,4, цана дагаворная. Т. (8-029) 5475524, (8-029) 5456178.

• Гольф, 1988 г.в., 1,6 Д, 5-дзвярэй, цёмна-шэры, добры стан. Т. МТС (8-033) 6471536.

• ДЭУ-Нубіра, 1998 г.в., 2,0 Б, серабрысты металік, універсал, добры тэхнічны стан, 3700 у.а., торг. Нісан Ване, 1995 г.в., 2,3 Д, белы, 3500 у.а, Вілейка. Т. (8-029) 7005015, (8-029) 8622716.

• Кія Карэнс, 2000 г.в., 1,8 бензін, шэры металік, 6300 у.а., торг магчымы. Т. (8-029) 1685889.

• МАЗ 52А, 1986 г.в., выдатны стан, тэхагляд, страхоўка, запчасткі, рухавік КП 3-мост. Цана дагаворная. Т, (8-01771) 64541, Вэлком (8-044) 4600816.*

• Мерседэс Віта, 1998 г.в., 2,3 Д, пасажырскі, 8+1. Т. (8-044) 4694293.

• Нісан PATHFINDER, 2006 г.в., 4х4, усё акрамя скуры. Т. (8-029) 6262756, (8-029) 2505060.*

• Нісан Пікса, 2009-10 г.в., 1,0 Б, 5-дзверны, чырвоны, толькі з Германіі, 7550 у.а. Т. (8-029) 6575486.*

• Нісан Пікса, 2010 г.в., бензін, з Германіі, выдатны стан, Вілейка. Т. Вэлком (8-029) 9375102.

• Нісан Пікса, 2010 г.в., бензін, з Германіі, добры стан, Вілейка. Т. Вэлком (8-029) 9375102.

• Нісан Сані, 1991 г.в., аб'ём 1,4, па запчастках. Т. (8-029) 2791141.*

• Пежо 306, 2001 г.в., 1,9 дызель, чорны універсал, літыя дыскі, кандыцыянер, без праблем, 5950 у.а. Т. (8-029) 7603076.

• Пежо 405, 1992 г.в., 2,0 бензін, 1900 у.а., Валожын. Т. (8-029) 8580860.

• Пежо Баксёр, 1996 г.в., 2,5 ТД, максібаза, Вілейка. Т. (8-029) 5772129.*

• Пежо Партнер, 2001 г.в., 1,9 TD, 5-дзверны, пасажырскі, у выдатным стане, 6000 у.а. Т. (8-029) 7763394.*

• Рэно Велсаціс, 2004 г.в., 2,2 СДІ, аўтамат, ёсць усё. Т. (8-029) 3437131.*

• Рэно Лагуна, 1999 г.в., 1,8 бензін, кліматкантроль, эл/пад'ёмнікі, сігналізацыя. Т. МТС (8-029) 7733467.

• Рэно Лагуна-2, 2001 г.в., 1,9 ТДІ, блакітны металік, 6600 у.а. Т. Вэлком 3586217.

• Рэно Меган, 1998 г.в., 2,0 бензін, добры стан. Т. (8-044) 7691832.

• Сеат Альтэа-XL, 2008 г.в., 1,4 Б. Т. (8-029) 6850358.

• Сеат-Кардоба, 2006 г.в., 1,4 Д, седан, шэры, 7950 у.а. Т. (8-029) 6662068.

• Сітраэн Ксара, 1998 г.в., 1,9 Д, белы, у добрым стане, 4100 у.а. Т. МТС (8-029) 7643572, Вэлком (8-029) 9941792 або памяняю на дом у вёсцы.

• Сітраэн Берлінга, 2000 г.в., 2,0 HDI, 4-дзверны, 6250 у.а. Т. (8-029) 2529399.*

• Сітраэн Ксантыя, 1,9 TDI, тэрмінова. Т. (8-029) 5097495.

• Сітраэн Ксара, 2002 г.в., дізель, універсал. Т. (8-029) 5719655.

• Сітраэн С1, 1,0 інжэктар, 2009 г.в., белы, 3-дзвярэй, 40 тыс км, нядаўна прыгналі з Аўстрыі 21 красавіка, 7400 у.а., торг. Т. (8-029) 6631595.*

• Таёта Карына Е, 1995 г.в., прабег 220 000 км, 1,6 бензін, сіне-зялёны перламутр. Т. (8-029) 5692913.*

• ФВ Гольф, 1991 г.в., 1,6 Д, на хаду, 5-дзвярэй. Можна на запчасткі. Усе пытанні па тэлефоне (8-044) 4522788, (8-029) 8620027.

• ФВ Гольф-2, 1985 г.в., 1,6 TD, 2500 у.а., Мядзел. Т. (8-029) 3650053.*

• ФВ Гольф-3, 1997 г.в., 2,0 бензін, 5-дзвярэй, чорны, торг. Т. (8-029) 6867904.*

• ФВ Джэта, 1984 г.в., 1,3 бензін, сіні, 1600 у.а., торг. Т. (8-029) 5611559.

• ФВ Джэта, 1990 г.в., 1,8 бензін, МКП 5, шэры металік, сідзі-магнітола, люк, шырокія бамперы, добры стан, 2200 у.а., торг, Вілейка. Т. (8-029) 7529618.

• ФВ Пасат В3, універсал, 3300 у.а., усе пытанні па тэл. МТС (8-033) 6645875, Станіслаў.*

• Фіат Марэа, 1996 г.в., 1,6 бензін, седан, 3500 у.а. Т. 6133841, 6148247.

• Форд Фіеста, 2003 г.в., 1,3 л, шэра-зялёны, хэтчбэк, бензін. Т. МТС (8-029) 5668725.*

• Форд Фокус, 2001 г.в., 1,8 дызель, хэтчбэк, вібаста, зялёны металік, 6300 у.а., торг дарэчны. Т. (8-029) 6468125.

• Будка-ізатэрма на Газэль ці як бытоўку на дачу, нядорага. Т. (8-033) 6650561, (8-0176) 772330.*

• Будка-ізатэрма, 15 куб.м, радыятар УАЗ. Т. (8-029) 2501254.

• Запчасткі да ФВ В-3, бензін, дызель па запчастках. Т. МТС (8-029) 8777677, Вэлком (8-029) 6154346.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Камплект летніх шын R14 - 150 у.а., 4 шт. Т. МТС (8-029) 8631039.

• Прычэп да «Зубраня» МАЗ-81144, у добрым стане. Т. (8-029) 5769587.

• Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.

### КУПЛЮ

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

• А/м 1988-2008 г.в., можна з дэфектамі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*

• А/м да 3500 у.а. Т. (8-033) 3711742.*

• А/м у добрым стане, для сябе. Дорага. Т. МТС (8-033) 3711756.*

• А/м у любым стане, можна бус, трактар, грузавы. Т. (8-033) 6510000.*

• А/м у любым стане, можна мікраўтобус, грузавік, трактар. Т. (8-029) 5524004.*

• **А/М, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.**

• А/м, любы, з любымі праблемамі. Т. Вэлком (8-044) 4706493.*

• Аўто ў любым стане, дорага. Т. Лайф (8-025) 9378887.*

• Матор для Жыгулёў. Т. Вэлком (8-044) 7125657.*

• Прычэп да л/а. Т. (8-029) 2757107.

### ІНШАЕ

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У,** рухавікі да еўрапейскіх аўто з дастаўкай. ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*

### ПАСЛУГІ

• Арэнда **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА** пад земляныя работы. Т. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра 40,6 кв.м і 1-пакаёвая кватэра 44,9 кв.м ці абмяняю на дом. Т. (8-029) 3787377, (8-044) 7313603.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Мядзелі (паўтарачная), 2-паверх, 38 кв.м, 30000 у.а. Т. (8-044) 4649294.

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г.Любань Вілейскага раёна, 15000 у.а. Т. (8-029) 2760053.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 37045, Вэлком (8-044) 7590588.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5682273.

• 3-пакаёвая вкатэра у Мядзеле, цэнтр, еўрарамонт. Т. Вэлком (8-029) 3675662.

• 3-пакаёвая кватэра ў Мядзеле, вул.Юбілейная, 23, 4/5 паверх, 60,5 кв.м, 50000 у.а, торг. Т. (8-029) 1958826. *

• 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-025) 7461765, Алёна.

• 2 гандлёвых месца ў Вілейцы на рынку «Садружнасць» ў прамысловым шэрагу (нядорага). Т, МТС (8-029) 8631039.

• Вагончык-бытоўка, новы, уцеплены, 1500 у.а. Т, МТС (8-029) 5752805.*

• Гараж у ГБК-1 у Ізбіно, Вілейка, з добрым склепам. Т. Вэлком (8-029) 3599238.

• Гараж у ГБК-2, цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 5060098.

• Гараж у ГК-5, Лясныя, 3100 у.а. Т. (8-029) 2523210.

• Дачны участак, 8 сотак, ст. Баяры-86, летні домік, вадаправод унутраны, 15 хвілін хады ад прыпынку электрычкі, в.Баяры, Мінскі напрамак, 3000 у.а., тэрмінова! Т. (8-029) 5777136, Ганна.*

• Дом Вілейка, цэнтр. Т. (8-033) 6813413.

• Дом жылы у аграгарадку Куранец Вілейскага раёна 7,35х8,67 з гаспадарчымі пабудовамі: два скляпы, калодзеж, лазня, хлявы. Агарод 0,16 га. Т. МТС (8-033) 3018135, (8-01771) 54414.

• Дом у Ашмянах. Т. (8-029) 1696501.*

• Дом у в.Івонцавічы. Т. (8-033) 3137628.*

• Дом у в.Куляшы Вілейскага раёна, 52,2 кв.м., з гаспадарчымі будынкамі, 11 сотак зямлі. Цудоўны адпачынак , ёсць дзе купацца. Т. (8-029) 1289829.

• Дом у в.Макарычы, Вілейскі р-н, накірунак Вішнеўскае возера. Т. (8-029) 2501254.

• Дом у в.Нарач. Т. МТС (8-033) 6020657, Вэлком (8-029) 9082389.

• Дом у в.Сыраваткі Смаргонскага р-на, гараж, хлеў, лазня, вадаправод, побач газ. Т. (8-044) 5840949.*

• Дом у Вілейцы, гараж, лазня, цэнтр. Т. (8-029) 2695979.

• Дом у Вілейцы, драўляны, агульная плошча 67 кв.м., газ, вада, каналізацыя, зямельны ўчастак 9 сотак, гараж, склеп, хлеў. Т. МТС (8-029) 7780768, (8-029) 5023078.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 2574576, (8-01771) 21963.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 8724272.

• Дом у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7528142, Вэлком (8-029) 1598108, МТС (8-029) 7302701.*

• Дом у г.п.Івянец, вул.Куйбышава, 30, Валожынскі р - ён, 50 км ад Мінска, участак 12,5 сотак, побач рака, магчыма выкарыстоўваць для пабудовы дома або як садовы ўчастак, 13500 у.а. Т. (8-044) 7008349.

• Дом у г.п.Крывічы, Мядзельскі раён. Т. МТС (8-029) 7548741, Вэлком (8-029) 6858968.*

• Дом у Маладзечне недабудаваны, 3 узроўні, сцены драўляныя, дах – шыфер, плошча забудовы 10х13,5, унутраная плошча будынка 265/179/15, плошча ўчастка 15 сотак, гараж, сад, гаспадарчыя пабудовы, плот, побач лес і рэчка. Магчымы абмен на 2-пакаёвую кватэру. Т, (8-029) 5605781, (8-029) 5634971.*

• Дом у Сасновым Бары, Маладзечанскі р-н, 1,5 км ад Маладзечна. 106 кв.м, блокава-цагляны, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне. Каля дома аўтобусны прыпынак, зямельны участак 0,15 га. Ёсць сад, гаспабудовы, пластыкавыя вокны. Т. (8-0176) 707539, Вэлком (8-029) 1732246.*

• Дом у старым цэнтры Вілейцы, 70 кв.м, вада, газ па вуліцы, 30000 у.а., торг ці мяняю на 1-2-пакаёвую кватэру ў Мядзелі. Т. (8-0179) 755315.*

• Дом у цэнтры Смаргоні, 78 кв.м, газава-паравое ацяпленне, гаспабудовы, 0,16 га. Т. (8-029) 6098243, (8-044) 4885082.*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

● КОНКУРСЫ

# Другакласніца-капітан прывяла каманду да перамогі

**МАЛАДЗЕЧНА. Апярэдзіўшы школы Маладзечна і іншых гарадоў рэгіёну, каманда маладзечанскай сярэдняй школы 14 стала лепшай у "дарожным" гумары.**

Ладзіўся КВЗ спецыяльна для таго, каб дзякуючы гумару, звязаным з рухам на дарозе, зменшылася колькасць аварый.

На трэцім заключным этапе Мінскіх абласных гульняў сярод юных інспектараў руху, аматараў КВЗ, 12 удзельнікаў маладзечанскай каманды "Запасны выхад" сталі лепшымі.

Разынкай каманды стаў яе капітан. Старшакласнікамі вызвалася кіраваць другакласніца **Каця Беламызава**. У каманду яе прывяла **Ангеліна**, адна з удзельніц, якой дзяўчынка даводзіцца сястрой.

**Кіраўнікі каманды – харэограф Ірына Сасноўская і настаўніца рускай мовы і літаратуры і адначасова педагог-арганізатар Алеся Таўгень.**



Фота забяспечана Генадзем ПАРШУТКІНЫМ.

**Удзельнікі маладзечанскай каманды СШ№14 "Запасны выхад". Злева направа: Генадзь Паршуткін, Раман Чашко, Ангеліна Беламызава, Раман Сушко (ззаду).**

## Конкурсы

Візітка. Як распавёў удзельнік каманды **Генадзь Паршуткін**, нумар павінен быў прадставіць каманду. Каця прычытала, што ўсеў камандзе бесталковыя, потым усіх адчытала, пастроіла, сказала, каб сабраліся з духам і пачалі.

Другі конкурс быў музычным. Удзельнікі павінны былі скласці тэкст на вядомую музыку і арганізаваць падтанцоўку. Музыку каманда ўзяла з песні гурту "Брава" "Добры вечар, горад мой". А тры пары падрыхтавалі для яе танец з элементамі рок-н-рола.

У трэцім конкурсе камандам трэба было агучыць любы знакаміты фільм. Узяліся за гэта тры чалавекі з каманды.

Сэнс дзеяння ў тым, што дзяўчынка сустракае хлопца, што кіруе аўтобусам і просіць яго навучыць кіраваць і яе. Але ўсё безвынікова. Як не ўмела, так і не навучылася. Тады ён дорыць дзяўчынцы ровар "на ўсё жыццё". На якім яна і ездзіць.

Апошні чацвёрты нумар каманда "Запасны выхад" падрыхтавала ў форме казкі. Расказчыца гаварыла пра розныя катэгорыі людзей на дарозе.

У першай групе апынуліся "багатыры", якія ездзяць неакуратна. У другой – жанчына, якая ўмудрылася ехаць з памадай, люстэркам і чайнікам за рулём. У трэцяй на сцэну выйшлі тры хлопцы ў ласінах, што лаяліся з ДАІ.

– Якое пасланне гледачам ва ўсім гэтым? Калі кожны будзе хоць крышачку ўважлівей і культурней, тады жыццё на дарозе стане казкай, – кажа Генадзь.

## Прызы

Школе за такую каманду дасталася чатырохмесная палатка. Кожнаму ўдзельніку – па медалю, скейтборду і шлему. А таксама – наведванне саўны і басейна ў маладзечанскім аквапарку.

Канкурэнцыя ў каманды была вялікая. З адной з камандаў ішлі проста бал у бал.

– Але ўсе адпрацавалі на 100 працэнтаў, – лічыць Алеся Таўгень. – Яны ўсе да аднаго малайцы, самыя класныя! Яшчэ калі рыхтаваліся, усе збіраліся, прыходзілі і разам выдумлялі. І тут справа не ў часе, які нашоў на падрыхтоўку, а ў падыходзе да яе.

**Настасся РОЎДА.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Кантраляваць трэба і тых, хто вучыць кіраваць

**ВІЛЕЙКА. Размаўляем пра ўдзельнікаў дарожнага руху, а калі быць дакладнымі, пра парушальнікаў дарожнага руху.**

Як паказвае статыстыка, большасць парушэнняў выпадае на долю маладых кіроўцаў, вадзіцельскі стаж якіх не перавышае два гады.

Чаму так? Чыя гэта віна? Кіроўцаў альбо тых, хто выпускае іх на дарогу?

– На жаль, у навучальных установах Вілейшчыны, якія займаюцца падрыхтоўкай і перападрыхтоўкай кіроўцаў механічнага транспарту, часам ёсць парушэнні ў самім навучанні, – распавядае начальнік ДАІ Вілейскага РАУС **Аляксей Альфер**. – Яны ствараюць парушэнні працоўнай і вытворчай дысцыпліны сярод майстроў вытворчага навучання кіраванню. Што пагражае бяспечнай эксплуатацыі вучэбнага аўтатранспарту.

Менавіта каб узмацніць кантроль за якасцю падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіроўцаў, павысіць аб'ектыўнасць пры прыёме кваліфікацыйных экзаменаў, павысіць якасць падрыхтоўкі кіроўцаў, ад 21 да 30 сакавіка ДАІ ладзіла акцыю "Вучэбны аўтамабіль".

## Што ў акцыі

Падчас яе правядзення супрацоўнікі ДАІ кантралявалі выкананне патрабаванняў правілаў дарожнага руху майстрамі вытворчага навучання кіравання.

Шмат увагі надавалі таксама і праверцы тэхнічнага стану аўтамабіля, а таксама яго спецыяльнаму абсталяванню, якое патрэбна для бяспечнага і дзейснага навучання кіроўцы.

Супрацоўнікі ДАІ Вілейскага РАУС наведвалі заняткі ў навучальных установах па падрыхтоўцы кіроўцаў, сачылі за тым, каб выконваліся праграмныя патрабаванні.

Такія прафілактычныя акцыі ладзяцца некалькі разоў за год. У гэты раз парушэнняў не знайшлі. Супрацоўнікі ДАІ спадзяюцца, што правядзенне наступных акцый такога кшталту таксама будуць вызначацца станоўчымі паказчыкамі.

– Калі не ўпэўнены ў сваёй моцы і ведах, – раіць Аляксей Альфер, – лепш звярніцеся зноў да свайго інструктара і настаўніка па тэорыі. Задавайце пытанні, прасіце патлумачыць тое, што не зразумела альбо не атрымліваецца. Бо кіраванне ў жыцці – не камп'ютарная праграма, дзе вы выконваеце праверачныя тэсты, каб ацаніць свае валоданне ПДР. На дарозе, памыліўшыся, можна зведаць больш сур'ёзныя праблемы, чым надпіс "залік не здаў". Поспехаў вам!"

**Анастасія ЛЕАНОВІЧ, Вілейка.**

# Адкрыццё прывялейскай Тупальшчыны

*Працяг.*
*Пачатак у №17*

**На Беларусі існуюць дзве мясціны з адной і той жа назвай Тупальшчына.**

*У лясах маёнтка незабыўны збор грыбоў і ягад. Для аматараў спорту ў садзе размешчаны тэнісны корт, крыху далей на беразе Вяллі размешчаныя спартыўныя пляцоўкі для баскетбола і валейбола, акрамя ўсяго, ёсць байдаркі.*

*Варункі побыту на лецішчы "Тупальшчына" наступныя: аплата за штодзённае ўтрыманне разам з абслугоўваннем складае ад дарослай асобы 3.50, 4 і 4.50 злотых, у залежнасці ад пакоя. Пакой у галоўным доме каштуе даражэй. Аднадзённае ўтрыманне дзяцей ва ўзросце да 6 год складае 2 злотых, а з 6 да 12 год – 2.50 злотых. Пакоі для гасцей лецішчаў маюць неабходную сціплую мэблю: чыстыя і дпаўляныя ложкі з матрацамі і падушкамі, шафы, сталы і г.д. Коўдры, пасцельную бялізну госці павінны мець уласную.*

*Харчаванне адбываецца ў галоўным доме чатыры разы на дзень: снядaнак, абед, падвячорак і вячэра. Кухня вядзецца пад адпаведным прафесійным кіраўніцтвам. Прадукты ўжываюцца першай якасці. Падаецца ў вялікай колькасці гародніна, сезонныя ягады і садавіна.*

*Даезд чыгункай да станцыі Смаргонь (на шляху Вільня – Маладзечна). Адлегласць ад станцыі Смаргонь да маёнтка Тупальшчына складае 20 кіламетраў, даезд аўто ці коньмі – за асобную аплату. Фурманкі для перавозу багажу выдзяляюцца задарма. З Вільні магчымы даезд аўтобусам да мястэчка Жодзішкі, з Жодзішак да маёнтка Тупальшчына тры кіламетры. У мястэчку Жодзішкі ёсць касцёл, пошта, тэлефон, доктар, аптэка.*

*Замову на пакой прысылаць: маёнтак Тупальшчына, пошта Жодзішкі, Уладзімір Бакшанскі. Пры замове пакоя і даезду ад станцыі да маёнтка просім паважаных адпачывальнікаў даваць задатак у памеры 25 злотых. За пакоі, заказаныя на тэрмін, але не занятыя, бярэцца аплата ў памеры 2 злотыя за дзень ад дарослай асобы і 1.50 злотых ад дзіцяці і да дня фактычнага заняцця пакоя. Калі наведванне пануецца не ў летні тэрмін адпачынку, то аб гэтым неабходна спецыяльна паведаміць".*



Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧОМ.

Тупальшчынская сядзіба, 1938г.

## Лідар па арганізацыі тагачаснага турызму

Да ўсяго вышэй згаданага можна дадаць, што на працягу дзесяцігоддзя, да верасня 1939 года, Тупальшчына з'яўлялася ў нашым рэгіёне бясспрэчным лідарам па арганізацыі летняга адпачынку і, па сведчаннях мясцовых жыхароў, карысталася вялікай папулярнасцю.

Што тычыцца гісторыі самога тупальшчынскага паселішча, то старонкі летапісу гэтай прывялейскай мясціны прачытваюцца не менш захапляльна і цікава. Дакладна не вядомая першая пісьмовая згадка пра Тупальшчыну, але паганскія курганы паблізу яе, якія захаваліся да нашых дзён, распавядаюць пра старажытныя часы іх узнікнення. Па матэрыялах раскопак на культавым комплексе каля Вялікага Тупальшчынскага каменя, якія былі праведзены напрыканцы мінулага стагоддзя вядомым беларускім археолагам Эдвардам Зайкоўскім, сёння можна датаваць гэты археалагічны комплекс 13 стагоддзем.

## Пра што сведчаць рэчы, знойдзеныя ў курганах

У свой час, калі частка археалагічнай знаходкі перадавалася ў інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі, мне пашчасціла дакрануцца да некаторых старажытных рэчаў калекцыі. Нягледзячы на сем стагоддзяў знаходжання іх у зямлі, бездакорна рухалася кольца ў металічнай шпоры, а з завяршэння ручкі мяча, якая была выкананая ў выглядзе галавы драпежнай птушкі, пагрозліва пазіраў на нас старадаўні арол.

Упершыню ў 19 стагоддзі даследаваў сакральны камень у Тупальшчыне граф Канстанцін Тышкевіч. Паважаны даследчык ракі Вяллі і яе берагоў лічыў валун "алтаром паганскай веры ў Літве" і старажытнай каштоўнай святыняй. Між іншым, для гісторыі захавалася дата побыту гэтага шаноўнага археолага і этнографа. У час воднага падарожжа 13 чэрвеня 1857 года Канстанціна Тышкевіча частавалі ў Тупальшчынскім двары гарбатай, а потым на шляху да тупальшчынскага каменя яго зноў суправаджалі мясцовыя гаспадары і госці. Такая ветлівасць прыбярэжных жыхароў маляўнічай Вяллі моцна ўразіла даследчыка, пра што ён і напісаў у сваёй кнізе. Знойдзеныя ў 1961 і наступным годзе ў наваколльных мясцінах грашовыя скарбы манет ВКЛ з сярэдзіны 16 стагоддзя даюць падставу таксама сцвярджаць пра актыўнае жыццё ў Тупальшчыне таго часу.

## Уладальнікі Тупальшчыны

Але давайце вернемся непасрэдна да падзей мінулага. Першым вядомым уладальнікам мясціны ў 17 стагоддзі становіцца прадстаўнік шляхецкага роду Комараў. Паводле інфармацыі даследчыка Адама Банецкага, тагачасным уладальнікам Тупальшчыны быў Яраш ці Геранім, сын Мацея Комара.

Падымны рэестр Віленскага ваяводства з 1690 года адзначае, што Тупальшчына ўваходзіць у Жодзішкаўскую парафію і належыць Крыштафу Комару. Апошні з'яўляўся ўжо ў 1676 годзе браслаўскім падчашым, гродскім ашмянскім суддзёй з 1680 па 1685 год, ашмянскім канюшым да 1691 года.

Прыблізна ў гэты час тут засноўваецца каталіцкая капліца. Дадзеную звестку прывяў у сваім артыкуле пра жодзішкаўскі парафіяльны касцёл у 1915 годзе тагачасны пробашч святыні Ігнат Расалоўскі. Пералічваючы мясцовыя капліцы наваколля, ён пазначыў, што капліца ў Тупальшчыне, раней Нова-Жодзішках, была фундаваная ў 1687 годзе аршанскім суддзёй Комарам. З фундушам 50 злотых на свята Ганны, з даходу карчмы і перавозу, з тым, каб спраўляць кожны тыдзень імшу і ў свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Новымі ўласнікамі Тупальшчыны пасля Комараў становяцца жодзішкаўскія іезуіты, якім па фундушовым акце ад 15 снежня 1708 года разам з гэтым маёнткам пераходзяць Жодзішкі, Чарніноў, Пілавойцi, Завелле і Авечкі.

У руках новых гаспадароў Тупальшчына знаходзілася да 1773 года. У гэтым годзе рымскі папа выдаў булу аб роспуску ордэна іезуітаў, што прымусіла іх пакінуць Жодзішкі. Пры гэтым мястэчка з паіезуіцкімі фальваркамі было падараванае каралём Станіславам Аўгустам члену Адукацыйнай камісіі, каронналу харунжаму Станіславу Шчэснаму-Патоцкаму, які ў сваю чаргу ў 1781 годзе падараваў іх палкоўніку войска літоўскага Тэадору Ласкарысу.

## Гістарычныя звесткі

Карысныя звесткі пра тагачасную Тупальшчыну сустракаюцца ў вопісах плебаній жодзішкаўскай парафіі з 1744 года і 1784 года. У першым вопісе наша мясціна мае найменне Топальшчына. Магчыма, назва паселішча паходзіла ад назвы распаўсюджанага мясцовага дрэва таполі. З другога дакумента вынікае, што тупальшчынскі фальварак з'яўляецца ўласнасцю Ласкарыса, знаходзіцца "паміж паўночным захадам і поўначчу", на самым беразе Вяллі, у адлегласці паловы вялікай мілі (4 100 м.) ад жодзішкаўскага парафіяльнага касцёла. Пры свірскім гасцінцы каля фальварка існавалі дзве карчмы, якія таксама належалі Ласкарысу.

Пакуль невядома, калі дакладна ад Ласкарысаў Тупальшчына пераходзіць роду Бакшанскіх, але гістарычным фактам з'яўляецца той, што тут у 1824 годзе нарадзіўся вядомы дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, паплечнік Кастуся Каліноўскага і аўтар адозвы "Да смаргонскіх сялян" Юльян Бакшанскі. Пасля рэвалюцыйных падзей паўстання 1863-1864 гадоў можна заўважыць, што Бакшанскім сталі належаць, акрамя Тупальшчыны, некалькі частак маёнтка Васілеўшчызна, Сыраваткі, Паніжаны, Пілавойці.

За гэта ім давалося перайсці ў праваслаўе, а мясцовую капліцу перабудаваць пад радавую капліцу-пахавальню.

У 12 томе за 1892 год "Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін" на сваіх старонках змясціў наступнае апісанне Тупальшчыны: "Вёска і маёнтак на правым беразе Вяллі, ніжэй Жодзішак, за 284 вёрст ад вытоку Вяллі, павет Свянцянскі, у 4 паліцэйскай акрузе, гміна Дубатоўка, вясковая акруга Тупальшчына, 61 вярста ад Свянцянаў, 1 дым, 5 жыхароў, бровар. У 1865 годзе ўласнасць Бакшанскіх. Побач знаходзіцца паганскі ахвярны камень, на якім павінен быў гарэць зніч. Пішуць аб ім Ходзька і Тышкевіч.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**

**Працяг будзе.**

● **КАЛЯНДАР**

**9 мая.** Дзень Перамогі.

***

**У 1953** годзе выйшаў першы нумар часопіса "Маладосць".

***

**10 мая.** 130 год ад нараджэння святара Вітольда Івіцкага. Падчас Вялікай Айчыннай вайны дапамагаў яўрэям, вязням і рэпрэсаваным. Яго ўзялі ў закладнікі нацысты ў Пінску. Калі яго разам з іншымі вывезлі на расстрэл, высветлілася, што ў спісе на экзекуцыю на аднаго чалавека менш. Афіцэр СС прапанаваў святару выйсці з расстрэльнага шэрагу. Але Івіцкі папрасіў замест сябе вызваліць начальніка чыгуначнай станцыі, які меў жонку і дзяцей.

***



**11 мая.** У 1883 годзе нарадзіўся Янка Маўр – беларускі пісьменнік, аўтар апавяданняў, аповесцяў і раманаў для дзяцей і моладзі.

***

У Тайландзе – свята першай баразны, а ў Ісландыі – апошні дзень рыбацкага сезона.

***

**12 мая.** 650 год таму заснаваны Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве.

***

Міжнародны дзень медыцынскай сястры.

***

**350 год** таму ў Версалі адбылася прэм'ера п'есы "Тарцюф" Мальера.

***

**13 мая.** У 1933 годзе нарадзіўся Аляксандр Кішчанка, аўтар "Габелена стагоддзя" і габелена "Чарнобыль".

***

**377 год** таму кардынал Рышэльe, памятаючы пра сваіх ворагаў, загадаў закругліць усе кінжалы для нарэзкі мяса за сталом. Так узнік сталовы нож.

***

**У 1857** годзе з-за чуткаў, нібы разваляцца шматпавярховыя дамы парыжане ў паніцы пакінулі горад.

***

**У 1930** годзе забілі апошняга дзікага сумчатага ваўка.

***

**14 мая.** 70 год таму нарадзіўся аўтар "Зорных войнаў" і "Індыяна Джонс" Джордж Лукас.

***

**15 мая.** У 1882 годзе нарадзіўся Уладзіслаў Галубок, беларускі тэатральны дзеяч.

**Падрыхтавала**
**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Знайсці звесткі і вярнуцца. Жывой

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

**МАЛАДЗЕЧНА. Ганна Ягорава ў 16 год сустрэла вайну і стала разведчыцай-сувязной. Як жыла да вайны, што дапамагло атрымаць перамогу і якім было жыццё пасля яе, жанчына распавяла карэспандэнту "РГ".**

– Як толькі першыя баі прайшлі, так я і пачала супрацоўнічаць з партызанамі. Мне трэба было ўбачыць усё, што звязана з цягнікамі. Выведваць усю інфармацыю пра эшалоны, якія прыязджалі ў Старыя Дарогі: адкуль, куды, з чым, ці была ў іх зброя, колькі чаго ў іх. Я стаяла каля перона, мяне немцы раз прагналі. Вядома, яны да чыгункі не пускалі. Я яшчэ раз прыходжу – хацела ж усё запомніць. Пісаць жа не будзеш, усё запамінаць трэба. Калі здабывала звесткі, ішла перадаваць іх у лес партызанам, а навакол жа немцаў поўна. Калі б мяне заўважылі каля лесу, адразу б расстралялі. Гэта такі страх, ні з чым не параўнаць! Вы ўяўляеце, як мне трэба было прайсці ноччу туды, да партызанаў, і адразу ж ноччу назад, дамоў. І 18 кіламетраў пешшу ішла па лесе. Толькі які гук, штосьці трэсне – жах неперадавальны.

У 1943 годзе немцы яе арыштавалі і разам з адной з сясцёр і вывезлі ў Германію.

## Бруквай, што ела ў палоне, і цяпер пахне

Ехалі ў Германію у цягніку-цялятніку. Жахлівая дарога – не было нават прыбіральні. І цягнік жа не спынялі, каб нехта выйшаў па патрэбе. Усе гэтыя справы там у вагоне і рабілі, дзе ехалі.

У Германіі трапілі ў лагер, дзе працавалі: будавалі чыгунку.

– Голад – гэта самае страшнае. У лагеры я прабыла больш за два гады. І акрамя супа з бручкі мы нічога не елі. Ён цяпер мне ўсюды пахне. На тыдзень нам выдавалі яшчэ па 500 грамаў хлеба. Пакуль дойдзем, адшчыкнем па кавалачку і прыходзім ў барак – ужо няма. І ўвесь тыдзень без хлеба.

У лагеры было цяжка выжыць, і працаваць цяжка. Уявіце, 20 дзяўчат учэпіцца ў тую шпалу і нясуць. І ўсе слабенькія, галодныя.

– У Германіі прабылі да Перамогі, а вызвалялі нас амерыканцы. У адзін з нашых баракаў трапіла амерыканская бомба. Ну мы зразумелі, што ўсё. Ніхто не абвяшчаў, што вайна закончылася. І мы пайшлі хто куды, каб дабрацца да дому. Пачулі, што ідуць чырвонаармейцы – і стараліся да іх патрапіць.

## У вайне перамагла з'яднанасць народа

Ганна Ягорава падзялілася сваімі разважаннямі пра вайну:

– Вельмі сумна было, што вайна напаткала зусім маладых, якія не паспелі пакахаць, і яны сыходзілі з жыцця. Але народ быў неверагодна з'яднаны, кожны любіў сваю Радзіму. Напэўна, таму мы і выйгралі гэту вайну. Але ж ці вы можаце зразумець, што такое вайна? Як мае дзеці могуць зразумець? Ніяк, толькі той, хто перажыў яе. На жаль, маладыя людзі не хочуць ведаць пра вайну. Цяпер грошы, грошы, грошы і машына – іх каштоўнасць. Не для ўсіх, вядома, але для вельмі многіх. Гэта страшна. Кожны думае пра сябе – і няма згуртаванасці, якая была тады.

**– Ці думалі вы, што могуць сваё здрадзіць?**

– Ну як гэта, яны сядзяць у акопе, пасылаюць мяне на заданні, і будуць здраджваць? У мяне нават думкі такой не было. Я думала толькі пра тое, як здабыць інфармацыю і перадаць яе, а потым вярнуцца назад.

**– Ці верылі ў перамогу?**

– Немцы ж былі з такой тэхнікай перадавой, так забяспечаны. Ведаеце, была такая радасць, што зіма была страшная ў 1942 годзе, за мінус 40! Дрэвы ўсе памерзлі. А немцы ж не прывыклі да маразоў. Я і цяпер часам са смехам прыгадваю, як яны парцянкі на ногі, на галаву коўдры нацягвалі. Гэтая зіма вялікую ролю адыграла для перамогі.

## Пасля вайны

Пасля вайны Ганна паехала ў Мінск, уладкавалася на завод. Там і пазнаёмілася з мужам. У 1948 годзе яна выйшла замуж за афіцэра. Праўда, ён не ваяваў: пакуль вучыўся, закончылася вайна. Пасля вайны служыў, даслужыўся да маёра. Разам з ім пражылі сем год да мяжой.

Потым вярнуліся ў Беларусь, спачатку жылі ў Мядзеле. Потым пераехалі ў Маладзечна.

У Ганны Гардзееўны двое сыноў. Старэйшы Аляксандр жыве ў Рызе. Малодшы Валеры – у Вытрапаўшчыне.

Напярэдадні 9 Мая яны прыехалі да мамы, каб павіншаваць з надыходзячым святам.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота з архіва сям'і ЯГОРАВЫХ.

**Бацькі і сёстры Ганны Ягоравай. Маленькая Ганна – крайняя справа.**

**СВЯТЫ**

# Праграма святкавання Дня перамогі 9 мая ў рэгіёне

**РЭГІЁН. Што для жыхароў падрыхтавалі гарады ў Дзень перамогі.**

**МАЛАДЗЕЧНА.** Святочная канцэртная праграма з удзелам народнага клубнага аб'яднання "Адпачынак" і народнага хору ветэранаў вайны і працы "Надзея" пачнецца 9 мая ў 12.00 у амфітэатры ў парку Перамогі. Доўжыцца яна будзе тры гадзіны.

Таксама ў парку для дзяцей арганізуюць забаўляльную праграму "Волатаўская застава".

На брацкіх магілках пройдзе мітынг-рэквіем "Пакуль мы памятаем – мы жывём".

Вечарам на пляцоўцы побач з амфітэатрам пачнецца праграма "У гарадскім садзе грае духавы аркестр".

**СМАРГОНЬ.** Святочныя мерапрыемствы будуць ісці ад 10 гадзін раніцы да 10 гадзін вечара.

У 11 гадзін раніцы пачнецца мітынг-рэквіем "Гарыць агонь вялікіх гадоў" побач з помнікам загінулым воінам і партызанам.

Ад 10 да 15 гадзін на цэнтральнай алеі гарадскога парку пройдзе выстава-кірмаш вырабаў майстроў раённага Дома рамёстваў і майстроў народнай творчасці Смаргоншчыны "З крыніц жыватворных".

У 10 гадзін раніцы ў спарткомплексе "Юнацтва" пачнецца турнір па шахматах.

На пляцоўках у розных месцах гарадскога парку у дзень будуць працаваць гульнявыя атракцыёны "Гульнявы калейдаскоп".

Ад 11 да 14 гадзін на цэнтральнай алеі парка будзе ладзіцца выстава "У полымі вечнага агню" на аснове матэрыялаў смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея.

У 12 гадзін у летнім амфітэатры ў парку тэатралізаванае адкрыццё канцэртнай праграмы "Паклонімся вялікім тым гадам".

Ад 12 да 13 гадзін на цэнтральных вуліцах горада пройдзе легкаатлетычны крос.

У палове першай гадзіны дня пачнецца святочная канцэртная праграма "Звініць перамогай май квітнеючы". Доўжыцца яна будзе каля чатырох гадзін.

**ВАЛОЖЫН.** У святочны дзень 9 мая жыхароў і гасцей Валожына чакаюць наступныя мерапрыемствы:

Ля вечнага агню на плошчы Свабоды ў 10.00 адбудзецца ўрачысты мітынг, ускладанне кветак да помніка загінулым, прысвечаны Дню Перамогі "Подзвігу народа – жыць у вяках";

Валожынскі раённы Цэнтр культуры рыхтуе тэатралізаваную канцэртную праграму "Дзякуем за тое, што мы жывыя". Яна пачнецца а 11 гадзіне.

Кінатэатр "Юнацтва" у 15.00 пакажа кінафільм "Цель вижу".

На пляцоўцы ля гарадскога возера з 12.00 будуць працаваць атракцыёны, гандлёвыя пункты.

Дзіцячая пляцоўка ў гарадскім парку а 12 гадзіне запрашае на святочную канцэртна-забаўляльную праграму для дзяцей і падлеткаў "Сонца над маёй Беларуссю", пленэр "Мы малюем мір" і гандлёвыя пункты з дзіцячымі цацкамі, папкорнам і салодкай ватай.

У гімназіі №1 а 13 гадзіне стартуе турнір па міні-футболе для выхаванцаў ДзЮСШ.

А 12 гадзіне шашачна-шахматны клуб аддзела адукацыі, спорту і турызму, што месціцца па вуліцы Партызанскай д.15., правядзе шашачны турнір для ветэранаў вайны і працы.

На стадыёне мікрараёна "Сельгастэхніка" у 11.00 пачнецца раённы этап Усебеларускага кроса "Перамога".

У 16.00 пачнецца матч чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе паміж камандамі "Валожын - 2010" і "Забудова" (Маладзечна)

У вячэрні час для дзяцей, падлеткаў і моладзі ў раённым Цэнтры культуры і кінатэатры будуць праходзіць дыскатэкі з 20.00 да 02.00.

**ВІЛЕЙКА.** Святочныя мерапрыемствы 9 мая распачнуцца ў 11 гадзін на плошчы Свабоды ля помніка воінам-вызвалiцелям. Адбудзецца мітынг-рэквіем, потым пройдзе святочнае шэсце.

На плошчы Леніна пасля 12 гадзін адбудзецца канцэртная праграма. Тут запрацуюць выстава краязнаўчага музея "Дарогамі вайны", ваенна-палявая кухня, выставы-продажы, дзіцячыя забавы.

У 12 гадзін пачнуцца мерапрыемствы ў вёсцы Забродздзе, дзе знаходзіцца мемарыяльны комплекс "Памяці падзей Першай Сусветнай вайны".

Пройдуць паніхіда на лясных шпітальных магілках, малебен ля капліцы святых Барыса і Глеба, асвячэнне каменя ў памяць пра абаронцаў Айчыны, літаратурна-музычны канцэрт-марафон "Сустрэча пакаленняў", паказальныя выступленні клуба "Юны дэсантнік" ды іншыя мерапрыемствы.

**МЯДЗЕЛ.** Мітынг, прысвечаны Дню Перамогі, пачнецца на плошчы Шаранговіча ў 10 гадзін. Потым гараджане накіруюцца да брацкай магілы воінаў і партызан на ўездзе ў горад, дзе ускладуць вянкі і кветкі. У 11 гадзін адбудзецца канцэртная праграма ў амфітэатры, якая працягнецца некалькі гадзін.

**АСТРАВЕЦ.** Урачыстасці ў Астраўцы пачнуцца ў 10.30 з мітынга ля помніка воінам-вызваленцам.

Святочная канцэртная праграма з удзелам мінскай кавер-групы "Токсіс" будзе доўжыцца ў парку з 11 да 15 гадзін.

А 12 гадзіне на гарадскім стадыёне пачнецца спартыўнае свята.

А 15 гадзіне ўсе жадаючыя змогуць паспаборнічаць у моднай гульні "Лазертаг". Гульня адбудзецца ў паркавай зоне.

А 17 гадзіне ля фантана ў парку пачне працаваць канцэртная пляцоўка для ўсіх. Аднaчасова з гэтым пачне працаваць бібліятэка пад адкрытым небам.

А 18 гадзіне зала "Галактыка" збірае жадаючых паспаборнічаць у чэмпіянаце па кам'ютарнай гульні "World of Tanks".

У 21.30 у гарадскім парку ля амфітэатра будзе ладзіцца паказ фільма пра вайну. Усе жадаючыя змогуць узяць з сабой тэрмаcы з кавай, плед і зручна размясціцца на газоне.

Скончыцца святочны дзень дыскатэкай, якая пачнецца ў зале "Галактыка" а 23.00 гадзіне і будзе доўжыцца да 4 гадзін раніцы.

**АШМЯНЫ.** Асноўныя ўрачыстасці пад агульнай назвай "Салют табе, Вялікая Перамога!" пройдуць на плошчы ля Дома Саветаў. Мітынг пачнецца ў 11 гадзін.

У 11.45 – канцэрт народнага хора ветэранаў вайны і працы.

У 12.00 – канцэрт-віншаванне калетываў школ горада "Пад мірным небам".

13.00 – канцэрт народнага ансамбля песні і танца "Крыніцы".

А 14 гадзіне гарадскі кінатэатр запрашае на дэманстрацыю фільма "Алтар Перамогі".

У парку пройдуць спаборніцтвы па валейболе і перацягванні каната.

20.00 – канцэрт народнага тэатра танца і песні "Імпульс".

Скончыцца свята дыскатэкай у гарадскім Доме культуры.

Акрамя таго, цягам дня будзе працаваць палявая кухня, гандлёвыя пункты, атракцыёны.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

# Часткі савецкага самалёта знайшлі ля Плябані

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Дня Перамогі выратавальнікі Маладзечанскага раёна прынялі ўдзел у раскопках савецкага самалёта.**

Супрацоўнікі пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада і Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях сумесна з байцамі 52 спецыялізаванага пошукавага батальёна Міністэрства абароны ўдзельнічаюць у раскопках і пад'ёме рэшткаў савецкага самалёта, збітага падчас Вялікай Айчыннай вайны.

27 чэрвеня 1941 г. далёкі бамбардзіроўшчык выконваў баявы вылет у раёне вёскі Краснае Маладзечанскага раёна. У выніку няроўнага бою з пяццю знішчальнікамі самалёт быў падбіты і ўпаў побач з вёскай Плябань.

З экіпажа ў колькасці чатырох чалавек выжыў толькі камандзір **Пётр Логінаў**. Мясцовыя жыхары схавалі пілота ад нямецка-фашысцкіх акупантаў і пераправілі яго праз лінію фронту. Пасля пілот распавёў пра гэтыя баі.

Тут жа адбылася сустрэча школьнікаў гімназіі № 7 г. Маладзечна з відавочцам тых падзей, жыхаром вёскі Плябань **Яўгенам Сасновічам**.

**Паводле mchs. gov.by**


Фота mchs. gov.by.

Сустрэча з відавочцам падзей часоў вайны ў небе над Красным Яўгенам Сасновічам (у цэнтры).

# Уганаравалі вызваляльнікаў Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА.** Напярэдадні 9 мая званне ганаровы ветэран Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў атрымалі вызваленцы Маладзечна. Іх цяпер жыве ў горадзе трое: **Канстанцін Капсунаў, Аляксей Маскіцінін** і **Віктар Адамовіч.**

Пра гэта паведаміла старшыня маладзечанскага Савета ветэранаў **Станіслава Зубкова**.

Усяго на Маладзечаншчыне жыве 42 інваліды вайны, 123 удзельнікі. Чатыры блакаднікі Ленінграда, 42 работнікі тылу, восем прыфрантавікоў чыгункі. Усяго – 219 чалавек.

Летась удзельнікаў вайны ў Маладзечанскім раёне было 348, былых вязняў – 211, з якіх 187 былі непаўналетнімі.

**ВІЛЕЙКА.** На Вілейшчыне жыве 101 ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Сярод іх – 20 інвалідаў вайны, 61 удзельнік, 19 чалавек, узнагароджаных ордэнамі ці медалямі за працу ў тыле, адзін жыхар блакаднага Ленінграда.

У раёне жывуць 16 былых паўналетніх і 93 – непаўналетніх вязняў.

Год таму на Вілейшчыне пражывала 124 ветэраны вайны, у тым ліку 24 інваліды, а таксама 100 былых непаўналетніх вязняў фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і іншых месцін прымусовага ўтрымання.

**МЯДЗЕЛ.** На пачатак мая на Мядзельшчыне пражываюць 35 удзельнікаў вайны (з іх – шэсць жанчын), восем інвалідаў вайны, шэсць працаўнікоў тылу, адна жыхарка блакаднага Ленінграда. Усяго – 50 чалавек.

Сярод жыхароў раёна – 23 былых паўналетніх і 118 непаўналетніх вязняў.

Летась на Мядзельшчыне было 40 удзельнікаў і 10 інвалідаў вайны, шэсць працаўнікоў тылу, адзін вязень канцлагера і адна жыхарка блакаднага Ленінграда.

**СМАРГОНЬ.** На Смаргоншчыне цяпер пражываюць 55 ветэранаў. Дзевяць з іх – інваліды вайны, чатыры – блакаднікі, 28 – удзельнікі, яшчэ 14 узнагароджаныя медалямі за самаадданую працу.

Летась у раёне жылі 72 ветэраны і 20 вязняў канцлагераў.

**АСТРАВЕЦ.** Летась у Астравецкім раёне было 13 удзельнікаў вайны, а таксама 13 вязняў фашысцкіх канцлагераў.

**АШМЯНЫ.** Паводле звестак мінулага года, у Ашмянскім раёне было 33 ветэраны. Было 5 чалавек, якія ўжо паўналетнімі патрапілі на прымусовыя працы ў Германію. Яшчэ 8 чалавек з Ашмянскага раёна апынуліся там у непаўналетнім узросце.

**ВАЛОЖЫН.** У Валожынскім раёне летась было 89 ветэранаў і 92 вязні канцлагераў.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

## Загінула веласіпедыстка – кіроўца знік

**МЯДЗЕЛ.** Каля 23 гадзін 27 красавіка трагедыя адбылася на аўтадарозе паблізу вёскі Швакшты. Аўтамашына наехала на 39-гадовую мясцовую жыхарку. Жанчына ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памерла на месцы.

Кіроўца з месца здарэння знік. Давялося ўводзіць план "Перахоп". Неўзабаве кіроўцу затрымалі. Ім аказаўся 30-гадовы мужчына, які ехаў на фуры на Полацк.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Злавілі браканьера

**МЯДЗЕЛ.** На рэчцы Нарачанка 24 красавіка затрымалі жыхара Мядзельскага раёна. Ён вугралавушкай здабываў рыбу, паведаміў намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету **Валянцін Галубовіч**.

Здабычай мужчыны сталі чатыры вугры. У выніку ён прычыніў шкоду навакольнаму асяроддзю на дзевяць мільёнаў рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

СПАЖЫВЕЦ

# Тварог зменіць абгортку дзякуючы прапанове чытача нашай газеты

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 2 мая тварог , які выпускае Маладзечанскі малочны камбінат, будзе выходзіць у новай абгортцы.**

Наш чытач Аляксандр С. заўважыў тое, што тварог маладзечанскай вытворчасці вельмі падцякае. І праблему гэтую можна вырашыць, калі абгортку зрабіць даўжэйшай і шырэйшай на некалькі сантыметраў. С такой прапановай ён і звярнуўся да кіраўніцтва "Маладзечанскага малочнага камбіната".

Галоўны інжынер прадпрыемства **Віктар Бараноўскі** ў лісце нашаму чытачу адказаў: "Дзякуй за ваш ліст і слушную заўвагу ў адносінах абгорткі для тварага. Ад 2 мая абгортка будзе павялічаная да памераў, якія прапанавалі вы".

**Аддзел інфармацыі**

КУЛЬТУРА

# Мядзяльчане сталі лаўрэтамі ў Віцебску

**МЯДЗЕЛ. Прадстаўнікі Мядзельскай дзіцячай школы мастацтваў удала выступілі на міжнародным конкурсе-фестывалі дзіцячай і юнацкай творчасці "На сцэне "Славянскага базару". Праходзіў ён у Віцебску з 4 па 7 мая.**

Дуэт **Фрыды Савіцкай і Каці Ардынец** у сваёй намінацыі стаў лаўрэатам другой ступені. А квартэт "Агеньчыкі" – лаўрэатам трэцяй ступені, паведаміла дырэктар дзіцячай школы мастацтваў **Алена Касарэўская**. У "Агеньчыках" разам з названымі дзяўчынамі спяваюць **Мікіта Сямітка і Аляксандр Нікіценка**.

Сёлета гэта не першы поспех юных мядзяльчан. У сакавіку і квартэт "Агеньчыкі", і дуэт "NiKi" ў складзе Мікіты і Аляксандра сталі лаўрэтамі другой ступені на міжнародным конкурсе-фестывалі "Славяначка-2014" у Брэсце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ

# Вілейскія танцоры перамаглі ў міжнародным конкурсе

**ВІЛЕЙКА. 26 і 27 у Мінску прайшоў II Міжнародны конкурс сучаснага мастацтва "AVANTI", у якім удзельнічалі віляйчане.**

Вучні Вілейскай гімназіі №1 "Логас" у складзе танцавальнага калектыву "Фарсаж" пад кіраўніцтвам **Алесі Раздзялоўскай.**

Яны прадэманстравалі танцы ў стылі хіп-хоп "Сон", "Таўрэлі", "Імпульс". Вельмі хвалявалiся, таму што выступалі сярод узорных калектываў розных краін.

Усе тры танцы адзначыла журы. Віляйчане атрымалі два дыпломы другой ступені, дыплом трэцяй ступені і, вядома, кубкі пераможцаў.

**Алена МАЧЭЛЬ, настаўніца Вілейскай гімназіі №1 "Логас".**



Маладзечанцы саступілі Баранавічам, хаця трэнер быў упэнены, што хлопцы мяч трымалі добра.



Гулец Баранавічаў выйшаў адзін на адзін з варатаром маладзечанцаў Вадзімам Хмяльніцкім (злева).



Галоўны трэнер "Маладзечна-2013" Дзмітры Ганчароў (злева). Побач з ім дырэктар ДЮСШ Віктар Дзмітрачкоў.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# У першай дамашняй гульні маладзечанцы саступілі з лікам 1:3

**Маладзечна. У нядзелю, 4 мая, каманда "Маладзечна-2013" сустрэлася з камандай з Баранавічаў.**

Першая гульня сезона сабрала на стадыёне дастатковую колькасць аматараў футблола. Дарэчы, кошт на ўваходны квіток не змяніўся і па ранейшаму складае 10 тысяч рублёў. Дзіцячы квіток – 5 тысяч.

Адкрыць лік сустрэчы госці змаглі ўжо на восьмай хвіліне. Літаральна праз 10 хвілін футбалісты Баранавічаў замацавалі поспех, павялічыўшы разрыў у ліку да двух галоў.

Гульцам з Баранавічаў неаднаразова ўдаецца атакаваць вароты маладзечанцаў. Толькі па нейкай шчаслівай да маладзечанцаў выпадковасці мяч ляціць то над варотамі, то трапляе ў штангу. Атакі ж маладзечанцаў рэдкія і невыразныя.

Да канца першага тайма маладзечанцам так і не пашчасціла забіць гол. Першы тайм скончыўся з лікам 0:2.

Малюнак другога тайма паўтарыўся з дакладнасцю да некалькіх хвілін. На 12-й хвіліне другога тайма трэці мяч залятае ў вароты гаспадароў гульні.

Толькі на 27-й хвіліне гульцу каманды "Маладзечна-2013" **Аляксандру Працкевічу** ўдалося "размачыць" лік.

Але, на жаль, гэта быў адзіны дакладны ўдар маладзечанцаў па варотах саперніка.

Такім чынам, першая дамашняя гульня каманды "Маладзечна-2013" скончылася паражэннем.

Па каментар мы звярнуліся да галоўнага трэнера ФСК "Маладзечна-2013" **Дзмітрыя Ганчарова**:

– Давайце будзем праўдзівымі, каманда Баранавічаў выйграла заслужана. Я мяркую, не апошнюю ролю нашым паражэнні адыграў недахоп трэніровак. Мы як каманда трэніруемся ўсяго тры тыдні. Але са станоўчых момантаў магу адзначыць тое, што хлопцы добра трымалі мяч. Асабліва ў першым тайме.

**– На якія моманты вы звернеце асаблівую ўвагу напярэдадні наступнай гульні?**

– Ведаеце, я і гэтае паражэнне не лічу катастрофай. Хутчэй, гэта нагода задумацца пра слабыя месцы. Мяркую, што з другім трэнерам **Андрэем Лявончыкам** перад гульнёй з камандай "Лівадзія" (Рэд: гульня адбудзецца 10 мая ў Дзяржынску) мы зробім ухіл на тактыку і тэхніку.

**– Калі ўсё ж такі адзначыць лепшага гульца, на вашу думку, хто гэта?**

– У гульні з Баранавічамі адназначна лепшым быў 12 гулец (усміхаецца). Нам трэба імкнуцца гуляць так, як нас падтрымліваюць нашы фанаты. А калі сур'ёзна, то магу адзначыць **Цімафея Ігрушу, Андрэя Лявончыка і Юрыя Янaчкіна.**

**Наталля ТУР.**

● НАВІНЫ

## З каманд рэгіёна выйграла толькі "Вілія"

**ВІЛЕЙКА.** Чэмпіянат Мінскай вобласці па футболе пачаўся 1 мая. Сёлета каманда падзеленая на дзве групы, у групе "А" гуляюць каманды з нашага рэгіёна.

У адной з гульняў сустрэліся "Забудова-2007" з Чысцi і "Вілія" з Вілейкі. Віляйчане ў гасцях аказаліся мацнейшымі 2:1. У іх дублем вызначыўся **Сяліцкі**, у "Забудове-2007" – **Астэртах.**

Каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" у гасцях прайграла футбольнаму клубу "Барысаў" 1:2 (адзіны гол у маладзечанцаў на рахунку **Красоўскага**).

А вось "Валожын-2010" буйна саступіў клубу з Беразіно 0:8. паведамляе абласная федэрацыя футбола.

Перамога дазволіла "Віліі" пасля першага тура заняць трэцяе месца ў групе "А".

## Трэцяе запар паражэнне "Смаргоні"

**СМАРГОНЬ.** У трэцім туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" зноў прайграла – у трэці раз запар. У хатняй сустрэчы 4 мая смаргонцы саступілі футбольнаму клубу "Бяроза-2010" з лікам 2:3. Галамі ў гаспадароў адзначыліся **Баскакаў** і **Мархель.**

А раней, 26 красавіка, у другім туры "Смаргонь" у гасцях саступіла "Віцебску" 0:1.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прайшлі два туры турніру па міні-футболе

**ВІЛЕЙКА.** Завяршыўся другі тур традыцыйнага турніру па міні-футболе на штучным пакрыцці ў Вілейцы.

У першай групе лідзіруе каманда "Шылавічы", якія пасля дзвюх гульняў набрала шэсць ачкоў. У другой групе у лідарах каманды "Мая сям'я" і "Воўкаўшчына", якія маюць чатыры ачкі. Паміж сабой яны згулялі ўнічыю 2:2. У трэцяй групе на першым месцы "Юніёр" (шэсць ачкоў). У чацвёртай таксама з шасцю ачкамі лідзіруе "Рубін". Моцная каманда "Буддэталі" мае тры ачкі, але ў яе яшчэ матч у запасе, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

## У Мядзеле вызначылі лепшых тэнісістаў

**МЯДЗЕЛ.** 26 красавіка ў райцэнтры прайшоў асабіста-камандны чэмпіянат раёна па настольным тэнісе. У складзе кожнай каманды было па адным мужчыне і адной жанчыне.

У мужчын першае месца заняў **Віталь Філіповіч** з Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра "Зубраня". У жанчын перамагла **Ала Роўда** (аддзел адукацыі, спорту і турызму).

У камандным першынстве не было роўных прадстаўнікам цэнтра "Зубраня".

## Свята мая і спорту

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 2 мая адбыліся святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню працы і 110-й гадавіне прафсаюзнага руху ў Беларусі. У іх межах прайшлі спартыўныя мерапрыемствы.

Мядзяльчане маглі паспрабаваць свае сілы ў дартсе, карфболе, праверыць турысцкія навыкі, пабачыць заезды картынгістаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Юныя ўдзельнікі свята на адмысловай пляцоўцы маглі паспрабаваць сябе ў ролі турыстаў.

● ФЕСТЫВАЛІ

# Каб паказаць свой BMW, праехаў 2 000 кіламетраў

**МАЛАДЗЕЧНА. 2–4 мая на стэнс-фестывалі "Граблі" непадалёк ад вёскі Пятроўшчына на Маладзечаншчыне ацэньвалі 88 аўтамабіляў. Ячшэ дзвесці прыехалі, каб вызначыць лепшы.**

Па выніках галасавання, ім стаў "Фольксваген-Гольф 1".

Летась на першым фестывалі заніжаныя аўтамабілі ў стылі "стэнс" (у перакладзе з англійскай мовы "пазіцыя, пасадка") выклікалі вялікую цікавасць. Сёлета пляцоўкай для аўтамабілістаў стаў адукацыйны цэнтр "Лідзія".

Прыехалі сюды не толькі з розных куткоў Беларусі, але і Расіі. **Раману Сакалову** з Архангельска нават выдалі спецыяльны дыплом. Ён на сваім BMW праехаў 1953 кіламетры, каб патрапіць на фестываль.

Кожны аўтамабіль меў свой нумар. Калі машына падабалася, за яе нумар галасавалі. Дарэчы, галасаванне было цалкам адкрытае. У ім бралі ўдзел не толькі дарослыя, але і дзеці.

Назіральнікі цікавіліся ў гаспадароў пра ўласцівасці іх аўтамабіляў, дэталёва разглядвалі і шмат фатаграфавалі.

– Найбольш мне спадабалася BMW пад нумарам 23, бо там новыя польскія колы, якія каштуюць 2 000 долараў. Увогуле, здаецца, сэнс гэтага з'езду ў тым, каб паказаць колы і пнеўмападвескі, усталяваныя гаспадарамі аўто, – каментуе маладзечанец **Руслан Спецыян**.

Удзельнікі адзначалі ў спецыяльнай паперы, на якіх аўто самыя лепшыя колы, падвеска, бампер, каб напрыканцы з'езду вызначыць сапраўднага пераможцу.

**Алесь ДЗЯМІДЧЫК, школка журналістыкі пры "РГ".**



Фота Алеся ДЗЯМІДЧЫКА.

**Удзельнік другога стэнс-фестывалю "Граблі-2" разам са сваім чатырохколавым сябрам.**
**На ўбудаваным здымку – BMW Рамана Сакалова, на якім ён праехаў 1953 кіламетры.**

● РЭПЕРТУАР

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**Закрыццё тэатральнага сезона**

11 мая, нядзеля – 12:00

ПРЭМ'ЕРА Жыццёвая гісторыя "**Шматкі па закавулачках**" (*Рыгор Осцер*)

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

Цыркавая клаўнада для дзяцей і дарослых "**Цырк, цырк, цырк!**" (*Мікіта Благаў*)
25 мая, нядзеля – 12:00

**Гастролі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**

Музычная казка "**Шматкі па закавулачках**" (*Рыгор Осцер*)
27 мая, аўторак – 10:30, 12:40
28 мая, серада – 10:30, 12:40

Неверагодная гісторыя ў 2-х дзеях "**Мужчына да свята**" (*Надзея Птушкіна*)
27 мая, аўторак, сцэна Палаца культуры –19:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА Музычна-паэтычны спектакль да Дня Перамогі "**Памяць, за сабой пазаві...**"
8 мая, чацвер – 16:00

ПРЭМ'ЕРА Лірычная камедыя ў 2-х дзеях "**Аблом OFF**" (*Міхаіл Угараў*)
13 мая, аўторак – 19:00

Камедыя ў 2-х дзеях "**Камедыя**" (*Уладзімір Рудаў*)
16 мая, пятніца – 19:00

Праграма аўтарскай песні, выкананне вядомых хітоў. *Творчы вечар Віталя Качаткова* "**Дзякуй, сэрца!**"
29 мая, чацвер – 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

● ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

**Якія пачуцці выклікае ў вас сёлятняе 9 Мая?**

| | |
|---|---|
| **48%:** | **Страх, што гэта не апошняя вайна** |
| **30%:** | **Перажываю, што сотні тысяч ветэранаў так і не ўганаравалі адпаведна іх заслузе** |
| **12%:** | **Плачу над лёсамі людзей** |
| **6%:** | **Захапленне мужнасцю** |
| **3%:** | **Шкадую, што самому не паўтарыць подзвіг** |

Усяго галасоў 33

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | | 8 | | 1 | 2 | |
| | | | | | 2 | 6 | | 5 |
| | | | | 1 | | 4 | 7 | |
| | | 1 | | | 7 | 3 | | |
| | 6 | | | | | | 5 | |
| | | 3 | 6 | | | 2 | | |
| | 3 | 7 | | 4 | | | | |
| 1 | | 2 | 9 | | | | | |
| | 9 | 5 | | 6 | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 7 | 6 | 3 | 8 | 4 | 1 | 2 | 9 |
| 3 | 1 | 4 | 7 | 9 | 2 | 6 | 8 | 5 |
| 8 | 2 | 9 | 5 | 1 | 6 | 4 | 7 | 3 |
| 9 | 5 | 1 | 4 | 2 | 7 | 3 | 6 | 8 |
| 2 | 6 | 8 | 1 | 3 | 9 | 7 | 5 | 4 |
| 7 | 4 | 3 | 6 | 5 | 8 | 2 | 9 | 1 |
| 6 | 3 | 7 | 8 | 4 | 5 | 9 | 1 | 2 |
| 1 | 8 | 2 | 9 | 7 | 3 | 5 | 4 | 6 |
| 4 | 9 | 5 | 2 | 6 | 1 | 8 | 3 | 7 |

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Анімацыйныя прыгоды "**Кот Гром і зачараваны дом**", 3D (ЗША, Бельгія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
9 мая – 14:00, 16:00
10 мая – 14:00
11 мая – 15:00, 17:00
13 мая – 19:00
15 мая – 17:00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Баявік, крымінал "**13-ы раён: Цагляныя асабнякі**" (Францыя, Канада, 2014, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
9 мая – 21:00
10 мая – 19:00, 21:00
11 мая – 19:00
12-13 мая – 21:00
14-15 мая – 19:00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Фантастычны баявік, прыгоды "**Новы чалавек-павук: Высокае напружанне**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
9 мая – 18:00
10 мая – 16:00
11 мая – 21:00
12 мая – 18:00
14 мая – 21:00
Кошт білета – 45 000-55 000 рублёў.

Прэм'ера! Фантастычны экшн "**Гадзіла**", 3D (ЗША, Японія, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
15 мая – 21:00

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Робаты**" (Малайзія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
9-10 мая – 15:00
11 мая – 14:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Ваенная драма "**Збавенне**" ( Россия, 2011, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
9 мая – 17:00
10 мая – 19:00
11 мая – 17:00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Камедыя "**Палярны рэйс**" (Украіна, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
9-11 мая – 21:30
13 мая – 19:30
14 мая – 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама "**Бабруйск-Дакар**" (Беларусь, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
9 мая – 19:30
10 мая – 17:00
11 мая – 19:30
12-13 мая – 21:30
14-15 мая – 19:30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

● ГАРАСКОП
**(9-15 МАЯ)**



**Авен**. Калі не будзеце звяртаць увагу на здароўе, то ёсць верагоднасць, што не ўсе планы здзейсняцца. А ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.



**Цялец**. Ды вас прыйдзе каханне. Разам з каханым чалавекам палепшыцца і матэрыяльнае становішча. Не марудзьце, бо зоркі даюць шанс толькі адзін раз.



**Блізняты.** Не давярайце малазнаёмым людзям, бо менавіта з-за іх могуць адбыцца канфлікты. Рабіце зберажэнні і трацьце грошы з розумам.



**Рак.** Хваробы будуць абыходзіць вас бокам, бо вы вельмі любіце жыццё. А зусім хутка будзеце на сёмым небе ад шчасця. З вамі адбудзецца нешта незвычайнае, што пераверне ўвесь ваш уклад жыцця.



**Леў.** А калі з кім прыйдзецца расстацца, то не шкадуйце, замест старых адносін узнікнуць новыя, і яны атрымаюць другое дыханне.



**Дзева.** Зоркі прарочаць вам адкрыццё ў сабе дызайнерскіх здольнасцей, таму рабіце рамонты, будуйцеся, абуладкоўвайце сваё гняздо.



**Шалі.** Грашовыя пытанні не будуць праблемай, грошай будзе хапаць не толькі на бязбеднае існаванне, але і на тое, каб зрабіць запас.



**Скарпіён.** Адкрываюцца новыя перспектывы, магчымасці, і вы зможаце напоўніцу раскрыць свой талент. Палепшыцца фінансавы стан, а трошкі пазней можна разлічваць на значнае павелічэнне даходаў.



**Стралец.** Лоўкасць і кемлівасць дапамогуць у складаных сітуацыях і зробіць вас больш моцнымі ўнутры. Не трацьце дарэмна грошы. Будзьце разважлівыя і мудрыя.



**Казярог.** Лёс вам усміхнецца тады, як толькі ў вас з'явяцца сябры і апекуны, якія, ведаючы вашу працавітасць, стараннасць і неверагодную працоўную актыўнасць, запросяць вас удзельнічаць у развіцці свайго бізнесу.



**Вадалей.** Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і шчырыя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдача не прымусіць сябе чакаць.



**Рыбы.** Зоркі прадракаюць вам духоўны пад'ём. Шмат хто зразумее, што жыў няправільна, пераасэнсуе сваё жыццё, даруе крыўды і сам папросіць дараванне ў тых, каго раней пакрыўдзіў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

**Рэгіянальная газета. Rh.by**
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**9 мая, пятніца**

| | Чацвер | | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +11 +15 | | +11 +18 | | +12 +19 | | +10 +17 | |
| | 741 | ↑ 5 | 741 | ↑ 4 | 736 | ↑ 6 | 737 | ↗ 3 |
| Вільня | +10 +14 | | +8 +18 | | +10 +17 | | +7 +16 | |
| | 747 | ↑ 3 | 747 | ↗ 8 | 747 | ↗ 6 | 743 | ↗ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.17
Захад 21.00
Даўжыня дня 15.43

Усход 14.47
Захад 3.07
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Вясенні дождж лішні не бывае.
- Май лясы прыбірае, лета ў госці чакае.
- Пераплаўная серада (14 мая). Садзілі цыбулю, мяркуючы, што яна не будзе празмерна горкай.

## Чытайце праз тыдзень:

**Першы занятак "Мовы Нанова" ў Маладзечне. Што гэта за курсы і навошта яны патрэбныя – праз тыдзень у "РГ".**

Уваход вольны! МОВА НАНОВА МАЛАДЗЕЧНА. Па серадах 19.00 "Лівіа" (гандлёвы цэнтр "Модуль", 4 паверх)

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* Штосекунду нараджаецца мінімум чатыры дзіцяці.

* Грэчка на самой справе светла-зялёнага колера. А карычневая, якую прадаюць - падсмажаная.

* Нованароджаныя дзіцяняты жырафа пачынаюць жыццё падзеннем з вышыні двух метраў.

* Сярэдняя хуткасць даждж у – 27 кіламетраў за гадзіну.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў КРАСНЫМ

# Якія пачуцці выклікае 9 мая?



**Галіна Сімвалокава, выхавальніца:**

– Свята 9 мая выклікае ў мяне пачуццё радасці, гонару за тое, што мы вольныя, незалежныя людзі. Я ўдзячная ветэранам, што жыву пад мірным небам.



**Людміла Раманоўская, гаспадыня:**

– Самыя светлыя пачуцці . Гэта і гонар, і радасць і хваляванне і бясконцую ўдзячнасць тым, хто дамогся гэтай перамогі.



**Алеся Шчарбакова, білетная касірка:**

– Гэта свята сапраўды са слязамі на вачах. Я на 9 мая заўсёды плачу, бо вельмі шкадую загінулых на вайне. У мяне дзядуля ваяваў. Вайна – гэта вельмі страшна.



**Святлана Сільвановіч, мікрабіёлаг:**

– Свята 9 мая – нагода ўспомніць пра тое, што мы вольныя, незалежны народ. Дзякуй за гэта нашым ветэранам. Я нядаўна прачытала кнігу "Красненскія таямніцы". Аказваецца, колькі загінула тут людзей! Мы заўсёды павінны памятаць пра подзвіг нашых дзядоў.



**Вера Бондарава, у дэкрэтным адпачынку:**

– Шкадаванне, што з кожным святам Перамогі ветэранаў становіцца ўсё менш і менш. З нашых ветэранаў моладзь павінна браць прыклад.



**Алена Данілевіч, настаўніца англійскай мовы:**

– Выклікае пачуццё гонару, што мы – беларусы, незалежны народ. У такі дзень хочацца сказаць словы падзякі ветэранам, якія баранілі нас, змагаліся за нашу будучыню. Мы памятаем пра гэта.



**Юры Касцевіч, цясляр:**

– 9 мая – вельмі важнае свята для нас, беларусаў. Хачу, каб яно святкавалася заўсёды, моладзь павінна памятаць пра тых, хто аддаў сваё жыццё за іх будучыню. Свята Перамогі – гэта памяць народа.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ, школа журналісткі пры "РГ".**

**Рэгіянальная газета. Rh.by** Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 19 (993) 9.05.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 396. Падпісана ў друк у 9.00 7.05.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.